# Ніва

**БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК**

№ 28 (907) ГОД XVIII БЕЛАСТОК 15 ЛІПЕНЯ 1973 г. ЦАНА 60 гр.



**Дзяўчына-беларуска. Карэспандэнцыю аб Беларусі — „ільняной рэспубліцы“ чытайце на старонцы 6.**

## У дажынкавы вянок



**Намеснік старшыні Прэзідыума ПРН у Сямяцічах інжынер Расціслаў Клімюк.**

# АД СЯМЯЦІЦКАГА ПАВЕТУ

Гаворыць намеснік старшыні Прэзідыума ПРН у Сямяцічах інжынер Расціслаў Клімюк.

Я ахвотна раскажу чытачам „Нівы“ пра тое, як мы рыхтуемся да гэтага вялікага свята сялян нашай краіны. Не хацеў бы аднак абмяжоўвацца толькі святочнымі абяцанкамі. Дажынкі, калі паглядзець на іх па-гаспадарску, па-рабочаму, з’яўляюцца завяршальным этапам шматмесячных намаганняў тых, хто прадукуе хлеб і ўсё іншае, што патрэбна да хлеба, а таксама тых, хто арганізуе мэтанакіраваную сялянскую вытворчасць і служыць разумнай парадай гаспадарам.

Падрыхтоўка да Цэнтральных дажынак у Сямяціцкім павеце пачалася намнога раней, чым было аб’яўлена, што дажынкавыя ўрачыстасці адбудуцца ў Беластоку. Перш за ўсё рашылі мы стварыць спрыяльную базу для выкарыстання сучаснай сельскагаспадарчай тэхнікі. Нашым сялянам, асабліва ва ўсходняй частцы павету, вельмі надакучыла цераспалосіца. Уявіце сабе, скажам, дзесяцігектаравую гаспадарку, парэзаную на 20—30—50 палосак, а здаралася, што колькасць загончыкаў шырынёю ў паўтара—два метры даходзіла да 120. Дагэтуль правялі мы камасацыю зямлі на плошчы 25 тысяч гектараў. Гэтая праца прадаўжаецца цяпер у Сямяцічах, Агародніках, Слохах Анапольскіх, Алендрах, Гутковіцах і ў іншых вёсках — разам на звыш 35 тысячах гектараў.

Наводзячы парадак у гаспадаранні зямлёй, мы звярнулі таксама ўвагу на ўласцівае выкарыстанне дзяржаўнага фонду зямлі. Было яго ў нас амаль пяць тысяч гектараў. Доўгі час зямля гэтая лічылася „бяспанскай“. Абрабляў яе хто хацеў і як хацеў. Гэтую зямлю мы рашылі размеркаваць між сельскагаспадарчымі гурткамі, спулдзельнямі прадукцыйнымі і аднаасобнікамі. Падпісалі мы з імі доўгагадовыя ўмовы на арэнду.

Не маглі мы забыць таксама пра тых нібы-гаспадароў, якія ў сваіх метадах гаспадарання адсталі не менш чым на паўвека. Яны ні сабе, ні дзяржаве не прыносілі аніякай карысці. У бязвыхадным становішчы, асабліва калі гаспадарка не мела наследнікаў, якія захацелі б усур’ёз заняцца апрацоўкай зямлі, мы яе пераймалі ў дзяржаўны фонд. Калі аднак была яшчэ надзея, што гаспадар зможа самастойна „стаць на ногі“, мы яму ахвотна дапамагалі і дапамагаем, прысвячаючы такім сялянам асаблівую ўвагу.

Гэта адзін напрамак нашых намаганняў. З другога боку, стараемся паказаць усім зацікаўленым добрыя, павучальныя прыклады сучаснага гаспадарання зямлёй. У выніку праведзенага конкурсу **„Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная“** 90 сялян заваявала ў нас званне **„Майстар сельскагаспадарчай прадукцыі“**, а звыш 160 сялянам прысвоена званне **„Прыкладны гаспадар“**. Мы не пасаромімся перад кім-колеч, хай гэта будзе селянін з Познанскага ці з Апольскага, ці нейкага іншага перадавога ваяводства, паказаць яму гаспадарку інжынера **Збігнева Міраша** з вёскі Качэры, які, закончыўшы вышэйшую сельскагаспадарчую школу, вярнуўся на бацькоўскую гаспадарку і ўласным вопытам даказвае, як карысна, багата і культурна можна жыць цяпер у вёсцы. Ахвотна пакажам таксама гаспадаркі **Тадэвуша Высоцкага** і **Тамаша Ляшчынскага** з Перлеева, **Эдварда Пятроўскага** з Ваенца, **Луцыяна Пажазінскага** з Верценя Вялікага, **Францішка Гаруя** з вёскі Абніжа і многіх іншых. Усе яны ў мінулым, не вельмі для сялян спрыяльным годзе сабралі з поля па 30 — 35 і больш цэнтнераў збожжа з кожнага гектара і па 350 цэнтнераў бульбы. З кожнага гектара свайго поля прадалі ў сярэднім па 300 цэнтнераў мяса і амаль паўтары тысячы літраў малака. Штучных угнаенняў у гэтых гаспадарках выкарыстоўвалася каля 350 кілаграмаў (дзейснага рэчыва) на гектар зямельных угоддзяў.

Праграму па мінеральных угнаеннях і хімізацыі сельскай гаспадаркі выканалі мы ў павеце да 30 чэрвеня, па вапнаванню палёў занялі мы першае месца ў ваяводстве, па скупцы свіней — другое (за Дуброўскім паветам). На фоне ваяводскіх паказчыкаў маем добрыя вынікі па ўраджайнасці збожжа і бульбы, а таксама ў жывёлагадоўлі.

*Працяг на стар. 4*

### НА КУЛЬТУРНАЙ НІВЕ

## КЛУБ У СУПРАСЛІ МАЕ ЧЫМ ПАХВАЛІЦЦА

Клуб „Руху“ ў Супраслі Беластоцкага павету з’яўляецца адным з найлепшых у ваяводстве. Заняў ён другое месца ў конкурсе на найлепшы клуб. Ужо тры гады яго дзейнасцю кіруе Станіслава Долбняк, здольны арганізатар культурнага жыцця ў сваім асяроддзі. Супрасльскі клуб мае багатае абсталяванне. Члены паасобных гурткоў зацікаўленняў маюць неабходныя музычныя інструменты: арганы, электрычныя гітары, маюць таксама фотаапараты, кінаапарат і г.д. У Супраслі адбываецца многа культурных і асветных мерапрыемстваў павятовага маштабу. У пачатку гэтага года адбыліся тут агляд народных капэлаў і шахматны турнір на „залатую вежу“. У клубе дзейнічае больш дзесяці розных калектываў: дэкламатарскі, тэатральны, танцавальны, вакальна-музычны, шахматыстаў, брыджыстаў, клуб любіцеляў тэатра, клуб любіцеляў музыкі, клуб пенсіянераў і іншыя. Вялікім зацікаўленнем карыстаюцца лекцыі для бацькоў, якія вядуцца ў рамках паўшэхнага універсітэта. З розных нагод у клубе адбываюцца сустрэчы з пісьменнікамі, акцёрамі, журналістамі, разьбярамі, мастакамі і г.д. Супрасльскія акцёры-самадзейнікі выступаюць з пастаноўкамі не толькі ў навакольных мясцовасцях, але і ў Беластоку. У апошні перыяд праводзяцца ў клубе лекцыі на тэму гісторыі Супрасля і яго старажытнасцей, адбываюцца маладзёжныя танцавальныя вечарыны. Гурток фотааматараў рыхтуе фотагазеты на розныя тэмы.

Па просьбе кіраўнічкі клуба „Руху“ падаем прозвішчы тых, хто асабліва многа працуе ў клубе. Вось яны: Я. Радзіваноўская, Ф. Шчасновіч, М. Дабравольская, Г. Квасіборская, У. Керпш, С. Маліноўскі, Д. Лукашэвіч, Г. Олдытоўскі, Я. Лукашэвіч, Я. Твардоўскі, С. Ляпёнка.

(ця)

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“






**Скупаўцы перамагаюць. Рэпартаж з нараўкаўскага свята моладзі чытайце на старонцы 3.**

# ◆ Падзеі ◆ Здарэнні ◆ Факты ◆ Каментарыі ◆ Весткі ◆

## СВЕТ

### ГІСТАРЫЧНЫ ДАКУМЕНТ

Гістарычным дакументам назвала грамадскасць падпісанае 22 чэрвеня ў Вашынгтоне „Пагадненне аб прадухіленні ядзернай вайны".

У чым жа сутнасць гэтага пагаднення?

**Па-першае**, Савецкі Саюз і Злучаныя Штаты пацвердзілі, што яны будуць устрымлівацца ад пагрозы сілы або яе прымянення супраць другога боку, супраць саюзнікаў другога боку і супраць іншых краін наогул.

**Па-другое**, СССР і ЗША — вядучыя ядзерныя дзяржавы — дагаварыліся і ўрачыста заявілі аб тым, што яны будуць дзейнічаць так, каб прадухіліць ваенныя сутычкі і выключыць ўзнікненне ядзернай вайны з іншымі краінамі.

**Па-трэцяе**, — і гэта са зразумелым задавальненнем падкрэсліваюць многія замежныя аглядальнікі — пагадненне, якое ўступіла ў сілу з моманту яго падпісання, з'яўляецца бястэрміновым, гэта значыць, не можа разглядацца як нейкая „часовая дагаворанасць", а даказвае цвёрдую рашучасць дзвюх дзяржаў зрабіць усё, што ад іх залежыць, каб навекі прадухіліць узнікненне ядзернай вайны наогул.

### ЗАКОНЧЫЎСЯ ПЕРШЫ ЭТАП

Першы этап агульнаеўрапейскай нарады па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе адбыўся ў Хельсінкі з 3 па 7 ліпеня гэтага года. Згодна з дасягнутым раней пагадненнем, гэты этап адбыўся на ўзроўні міністраў замежных спраў.

Міністры прынялі канчатковыя ўказанні многабаковых падрыхтоўчых перагавораў у Хельсінкі, у якіх прапанаваны быў парадак дня і інструкцыі рабочым калектывам. Міністры некалькіх дзяржаў прадставілі прапановы ў розных справах адносна парадку дня. Іншыя сказалі, што свае прапановы прадставяць у часе другога этапу нарады.

Міністры замежных спраў пастанавілі, што другі этап нарады адбудзецца ў Жэневе 18 верасня 1973 года. Каардынацыйны камітэт, у склад якога ўваходзяць прадстаўнікі ўсіх удзельнічаючых у нарадзе дзяржаў, збярэцца на першую сесію 29 жніўня ў Жэневе, каб падрыхтаваць арганізацыю другога этапу.

### АСУДЖЭННЕ ВЫБУХУ

Асацыяцыя ахвяр атамнай бамбардзіроўкі Хірасімы накіравала ўраду Кітайскай Народнай Рэспублікі рашучы пратэст у сувязі з праведзеным у Кітаі ядзерным выбухам.

### ДАНЫЯ ШТОГОДНІКА

Згодна з апублікаванымі данымі статыстычнага штогодніка ААН, агульны валавы прадукт краін зямнога шара павялічыўся ў 1971 годзе ў параўнанні з папярэднім на 5 працэнтаў. У цэлым за перыяд з 1963 па 1971 год прырост прамысловай вытворчасці ў свеце склаў 66 працэнтаў. У Савецкім Саюзе, указваецца ў штогодніку ААН, за ўказаны перыяд ён склаў 189 працэнтаў, у ЗША — 139 працэнтаў. (ак)

## БССР

### МАГІЛЁЎСКІ ШОЎК

Магілёўшчына здаўна славілася сваімі шаўковымі вырабамі. Сёння Магілёў пераўтварыўся ў важнейшы цэнтр вытворчасці хімічных валокнаў. Да пабудаванага ў гады першай пяцігодкі завода штучнага валакна прыбавіўся буйнейшы ў Еўропе камбінат сінтэтычнага валакна. Тут жа ствараецца яшчэ адзін гігант тэкстыльнай вытворчасці — камбінат шаўковых тканін. Статыстыкі сцвярджаюць, што з пускам яго на поўную магутнасць у Беларусі штогод на кожнага жыхара будзе вырабляцца больш за 12 квадратных метраў шоўку. Камбінат узводзіцца з улікам навейшых дасягненняў навукі і тэхнікі. Асноўнае абсталяванне пастаўляе для яго Чэхаславакія — згодна з дагаворам у рамках СЭУ.

### ЭЛЕКТРЫЧКАЙ ДА БАРЫСАВА

У плане работ беларускіх чыгуначнікаў на гэтае пяцігоддзе намечана электрыфікаваць прыгарадны ўчастак чыгункі між Мінскам і Барысавам. Узвядзенне апор для кантактнай сеткі пачалося.

### АЎТАМАБІЛІ ДЛЯ КАЛГАСНІКАЎ

У прыватным карыстанні калгаснікаў Глыбоцкага раёна знаходзіцца зараз больш за 150 легкавых аўтамабіляў. Толькі за апошні год каля 40 сялян набылі новыя „Жыгулі" і „Запарожцы".

### НОВЫ МАЗ

Мінскі аўтамабільны завод распачаў серыйную прадукцыю новага грузавога аўтамабіля МАЗ-516Б. Новая машына адрозніваецца больш высокай эканамічнасцю і арыгінальнасцю тэхнічных рашэнняў. На ёй устаноўлены рухавік магутнасцю 240 конскіх сіл, што дае магчымасць машыне з грузам 14,5 тоны развіваць хуткасць да 85 кіламетраў у гадзіну.

### СЛАВЯЦЬ БЕЛАРУСЬ

Па марах і акіянах плаваюць гандлёвыя савецкія судны, якія расслаўляюць у свеце імёны беларускіх гарадоў. Гэта „Бабруйсклес", „Навагрудак", „Наваполацк". Нядаўна „Навагрудак" пачаў сваё новае плаванне па маршруту Ленінград — ЗША. Завёз ён у Амерыку тысячы тон розных грузаў, закупленых у СССР амерыканскімі фірмамі.

Да берагоў ЗША паплыве таксама „Наваполацк", які нядаўна пабываў на Кубе. Цеплаход „Бабруйсклес" вазіў тавар у Італію і Францыю.

### ПОМНІК Я. КУПАЛУ Ў ЗША

Пад Нью-Йоркам у Ароў-парку 1 ліпеня гэтага года адбылося ўрачыстае адкрыццё помніка Янку Купалу. У гэтай урачыстасці прыняла ўдзел дэлегацыя беларускай грамадскасці. У яе саставе знаходзіліся вядомы беларускі драматург А. Макаёнак і скульптар А. Анікейчык, які з'яўляецца суаўтарам купалаўскага помніка. Манумент з паўтараметровым бюстам Янкі Купалы стаіць у Ароў-парку побач з помнікамі А. Пушкіну і Т. Шаўчэнку. (вр)

## ПОЛЬШЧА

### Э. ГЕРЭК І П. ЯРАШЭВІЧ У ШЧЭЦІНСКІМ ВАЯВОДСТВЕ

І сакратар ЦК ПАРП Э. Герэк і прэм'ер П. Ярашэвіч наведалі Шчэцінскае ваяводства. Яны пабывалі ў суднабудаўнічай верфі імя А. Варскага, у рамонтнай суднаверфі „Грыфія". Потым адбылася сустрэча з членамі экзекутывы ВК ПАРП і Прэзідыума ВРН у Шчэціне. Высокія госці пабывалі таксама ў Свінаўйсці.

### І ПАЎГОДДЗЕ ДОБРАЕ

Як паказваюць уступныя дадзеныя, планы І паўгоддзя ў гаспадарцы ў большасці выпадкаў выкананы з поспехам, а ў некаторых нават перавыкананы. Гэта добрыя перспектывы выканання заданняў на 1973 год.

### У СТАЛЯВАРАЎ ГУТЫ „ВАРШАВА" І ІМЯ ЛЕНІНА

Гута „Варшава" працуе поўным ходам. План першага паўгоддзя выканала ў 102,8 прац.

Гуту наведаў член Палітбюро ЦК старшыня ЦРЗЗ У. Кручэк і І сакратар варшаўскага камітэта партыі Ю. Кемпа. А член Палітбюро ЦК старшыня Рады Дзяржавы Г. Яблонскі наведаў Кракаўскае ваяводства, а ў ім гуту імя Леніна ў Новай Гуце. Потым злажыў вянок ля помніка Леніна і наведаў кракаўскі стары горад.

### ДНІ БЕЛАРУСІ Ў ПОЛЬШЧЫ

У сувязі з Днямі Беларусі наведала Польшчу дэлегацыя на чале з Іванам Шамякіным — Старшынёй Вярхоўнага Савета БССР. Яна ў сваім падарожжы па нашай краіне наведвае многія раёны, сустракаецца з людзьмі.

### ПОЛЬШЧА І ГДР...

...падпісалі ўмову аб супрацоўніцтве ў галіне аховы прыроды. А ў гадавіну Згажэлецкага дагавору паміж Польшчай і ГДР на дзяржаўнай граніцы ў Згажэльцы адбыўся мітынг дружбы моладзі абедзвюх краін.

### ПАСЯДЖЭННЕ ПАЛІТБЮРО ЦК ПАРП

На чарговым сваім пасяджэнні Палітбюро ЦК ПАРП дало ўказанне партыйным арганізацыям, дзяржаўнай адміністрацыі і прафсаюзам, каб павялічылі свае клопаты аб выкананні гаспадарчых заданняў і аб сацыяльных умовах працы людзей у нялёгкім летнім сезоне.

### ПАСЯДЖЭННЕ РАДЫ ДЗЯРЖАВЫ

Рада Дзяржавы ратыфікавала ўмовы: з Рэспублікай Фінляндыі аб культурным і навуковым супрацоўніцтве, культурную ўмову з Народна-Дэмакратычнай рэспублікай Іемену, з Арабскай Сірыйскай рэспублікай аб культурным супрацоўніцтве, кансулярную канвенцыю з Сацыялістычнай рэспублікай Румыніі.

Рада Дзяржавы назначыла новых паслоў: пастаяннага прадстаўніка ПНР пры Бюро ААН ў Жэневе, у Каралеўстве Марока, у Каралеўстве Даніі. (вл)

## ВАЯВОДСТВА

### НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

У сувязі з Днямі Беларускай ССР у Беластоку ў Музеі рэвалюцыйнага руху адкрылася выстаўка народнай творчасці Гродзеншчыны. На ёй экспануецца каля 400 вырабаў народных умельцаў. Гэта перш за ўсё тканіны, разьба ў дрэве, кераміка, вырабы з саломы, лазы і шкла. Экспазіцыя сведчыць аб высокім майстэрстве народных умельцаў Гродзеншчыны і карыстаецца папулярнасцю ў наведвальнікаў.

### ГАЗ ДЛЯ БЕЛАСТОКА

Ужо ў будучым годзе значная частка прамысловых прадпрыемстваў і жылых дамоў Беластока атрымае з Савецкай Беларусі натуральны газ. Працы па пракладцы газаправода ідуць шпарка, ужо гатова 16 кіламетраў газавай артэрыі. У сучасны момант праводзяцца выпрабаванні гэтага адрэзка вельмі важнай для Беласточчыны інвестыцыі.

### НА ФОНД ЗДАРОЎЯ

У першай палавіне гэтага года жыхары Беластоцкага ваяводства ўнеслі 32 мільёны 736 тысяч злотых дабравольных складчын у Нацыянальны фонд аховы здароўя. Найбольшыя ўплаты былі ўнесены жыхарамі Сейненскага, Высокамазавецкага і Бельскага паветаў.

### МАЛАДЫЯ РАЦЫЯНАЛІЗАТАРЫ

На беластоцкім тэкстыльным камбінаце „Фасты" з году ў год праводзіцца конкурс на найлепшага рацыяналізатара. У мінулым годзе на конкурс быў унесены 31 праект, з іх 18 было прынята да прымянення ў вытворчасці. Яны дадуць камбінату 35 тысяч злотых гадавой эканоміі і значна палепшаць умовы працы. Конкурсная камісія першае месца прызнала С. Лосю за праект па ўдасканаленню працы верацён. Найлепшым жа маладым рацыяналізатарам ў 1972 годзе быў М. Клікоўскі.

### ДРУГІ ПАКОС

Сёлета надвор'е спрыяе росту траў. ПГР-ы ў Беластоцкім ваяводстве з першага пакосу сабралі 17 тон сена і заклалі звыш 43 тысячы тон сіласу. Пачаўся ўжо другі пакос. У сельскагаспадарчым камбінаце „Візна" ўжо скошана звыш 1000 га лугоў.

### „НІВОДЗІН КОЛАС НЕ МОЖА ЗГАРЭЦЬ"

Летам у часе жніва і малацьбы існуе асабліва вялікая небяспека ўзнікнення пажараў. Прычынай гэтаму не толькі гарачыня і суша, але таксама безадказныя гульні дзяцей. Штогод ідуць з дымам мільёны злотых ад згарэўшых лясоў, будынкаў і стадолаў, напоўненых збожжам. У сувязі з гэтым Упраўленне дабравольных проціпажарных каманд звяртаецца да ўсіх грамадскіх і маладзёжных арганізацый з заклікам арганізаваць як мага болей летніх дзяцінцаў і іншых форм апекі над дзяцьмі, быць асабліва асцярожным у абыходжанні з агнём у полі, дома і лесе. „Ніводзін колас не можа згарэць!" — заклікаюць нашыя пажарнікі. (мг)

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 15.VII.**

7.20 Program dnia. 7.25 TV Technikum Rolnicze: „Organizacja siewu poplonów". 8.05 „Przypominamy, radzimy". 8.25 „Alarm przeciwpożarowy trwa". 8.35 „Nowoczesność w domu i zagrodzie". 9.00 „Pomiędzy oceanami" — film dok. ang. („Świat, który nie może zaginąć"). 9.25 „W starym kinie" — „Listy miłosne Kazimierza Junoszy-Stępowskiego do Mary". 10.15 „Fałszerze" („Znaki zapytania"). 10.45 Koncert niedzielny z Berlina. 11.45 Dziennik. 12.00 „Przemiany". 12.30 „Muzy bez etatu". 13.00 Teatrzyk dla Przedszkolaków. 13.40 „Pokochać wiatr". 14.10 Losowanie Totolotka. 14.25 „Poezja Polska": „Czy na imię jej miłość" — wiersze W. Szymborskiej i M. Pawlikowskiej-Jasnorzewskiej. 14.25 Gra i śpiewa zespół „Finders Seekers". 15.00 „Piórkiem i węglem". 15.50 PKF. 16.00 Teatr Rozrywki: M. Pilot — „Życie uczuciowe w ogródkach działkowych". 16.45 „Przyjąć czy odrzucić" — rep. 17.30 Sprawozdanie z międzynarodowego turnieju w siatkówce kobiet: Zw. Radz. — Japonia. 19.00 „Kryteria". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Liga dżentelmenów" — film fab. ang. 22.05 Magazyn sportowy.

**Poniedziałek 16.VII.**

16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik 16.40 „Zniszczyć pirata" — film fab. TVP. 17.35 „Echo stadionu". 17.55 TV Kurier Białostocki. 18.10 „Oferty". 18.25 TV Kurier Warszawski. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 Letni Przegląd Teatru TV: F. Dürrenmatt — „Wizyta starszej pani". 21.50 „Ex libris". 22.20 Dziennik. 22.35 Przedstawiamy Hiszpański kwartet gitar klasycznych „Quartet Tarrago".

**Wtorek 17.VII.**

9.45 „Liga dżentelmenów" — film fab. ang. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Nowiny muzycznej oficyny". 17.10 „Rybacy z mierzei" — rep. („Morskie spotkania"). 17.40 TV Kurier Mazowiecki. 18.00 TELEFERIE. 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Zbrodnia i kara" — film fab. radz. cz. II. 22.00 „Przy wspólnym stole". 22.45 Dziennik.

**Środa 18.VII.**

9.50 „Zbrodnia i kara" — film fab. radz. cz. II. 15.20 i 15.55 Matematyka dla nauczycieli: „Pomiar długości i ciężaru". 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Film. 17.05 „Informacje, Towary, Propozycje". 17.25 Sylwetki X Muzy" — Halina Kossobudzka. 17.55 „Huta Katowice" — film dok. TVP. 18.20 TV Kurier Warszawski. 18.40 „Trasa Łazienkowska — Lipiec 1973". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Walka po zwycięstwie" — film fab. radz. cz. I. 21.35 Program publicystyczny. 22.05 „Wielcy ludzie a muzyka" — Konstanty Ildefons Gałczyński. 22.50 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Czwartek 19.VII.**

10.00 „Walka po zwycięstwie" — film fab. radz. cz. I. 15.20 i 15.55 Matematyka dla nauczycieli: „Minikomputer" cz. I i II. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Na akordeonie gra Jerzy Jurek. 17.00 PKF. 17.10 „Gramy o telewizor" — teleturniej. 17.35 TV Kurier Mazowiecki. 18.00 TELEWIZJA MŁODYCH. 18.45 „Poligon". 19.10 „Przypominamy, radzimy". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Złodziej w hotelu" — film fab. USA. 22.00 Scena Teatru Rozrywki: J. Wasylkowski — „Ten trzeci". 22.35 Dziennik. Wiadomości sportowe.

**Piątek 20.VII.**

9.00 Zlot Młodych Przodowników Pracy i Nauki — Kraków 73. Manifestacja pod pomnikiem Włodzimierza Lenina w Nowej Hucie. 16.25 Program dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 „Nie tylko dla pań". 17.10 „Cuprum — miedź" — film dok. WFD. 17.45 TV Kurier Warszawski. 18.00 TELEFERIE. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.15 „Spotkanie z Igą Cembrzyńską". 20.50 „Panorama". 21.30 Teatr TV: S. Lem — „Czy pan istnieje mr Johns?". 21.55 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.40 „Muzyka — turysta — Katowice" — program TV NRD i TVP.

**Sobota 21.VII.**

10.00 FILMY RENE CLAIRA: „Piękność nocy" — film fab. franc. 14.25 Program dnia. 14.30 Program I proponuje. 14.55 „Polonia na świecie". 15.25 „Spotkania z przyrodą". 15.55 POLSKI FILM DOKUMENTALNY. 16.30 Dziennik. 16.45 Wyścig Kolarski dookoła Polski. 17.30 „Teraz i w każdą pogodę" — film TVP. 18.30 „Godzina Orfeusza" — mag. muz. 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.15 Uroczysty koncert z okazji Święta Odrodzenia Polski. 21.30 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.20 Teatr Rozrywki: M. Bałucki — „Grube ryby".

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek, 13 lipca**

7.35 Nowiny. 7.45 Film fabularny. 9.30 Szkoła szachowa. 10.00 Koncert z Taszkientu. 13.25 Program dnia. 14.50 Dla szkół. 16.00 Nowiny. 16.10 Film dokumentalny. 16.30 Film animowany dla dzieci. 17.40 Program muzyczny. 19.00 Czas. 19.30 Program sportowy. 21.35 Panorama nowin.

**Sobota, 14 lipca**

7.00 Program dnia. 7.20 Nowiny. 7.30 Dla dzieci. 8.00 Przegląd międzynarodowy. 8.45 Filmy animowane dla dzieci. 10.00 Koncert. 10.45 Film fabularny. 14.00 Koncert. 16.00 Piłka nożna („Spartak" Moskwa — „Szachcior" Donieck). 18.00 Teatr miniatur. 19.00 Czas. 21.15 Szachy. 21.30 Nowiny.

**Niedziela, 15 lipca**

7.00 Program dnia. 7.20 Nowiny. 7.30 Filmy animowane dla dzieci. 9.45 Film fabularny. 11.15 Program sportowy. 11.45 Dla uczniów. 12.30 Koncert. 13.00 Piłka nożna („Torpedo" Moskwa — CSKA Moskwa). 16.00 Nowiny. 17.35 Koncert. 19.00 Czas. 21.00 Nowiny. 21.10 Program sportowy.

# ФЭСТЫНЫ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

## ПРЫЕМНАЯ СУСТРЭЧА З БЕЛАРУСКАЙ ПЕСНЯЙ

Нядзельны надвячорак 24 чэрвеня г.г. у беластоцкім Звежынецкім парку выдаўся на славу: свяціла яркае сонца, мяккі ветрык налятаў час ад часу, каб падхапіць звонкую мелодыю беларускай песні і пагойсаць з ёю па людных у гэты час прыпарковых гарадскіх вуліцах і завулках.

Прасторныя рады летняга амфітэатра запоўніліся да апошняга месца, а па ўсім наваколлі проста на траве расселіся цэлымі сем'ямі беластачане — і моладзь, і дарослыя, і дзядулі ды бабулі са сваімі ўнучатамі.

Адкрыў урачыстасць старшыня аддзела мгр М. Гайдук. Ён прывітаў прыбыўшых і праінфармаваў, што фэст арганізаваны з нагоды Дзён Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

„Дружба савецкага і польскага народаў, загартаваная ў бітвах у часе вайны, разгарнулася ў нашыя дні ў плённае супрацоўніцтва ў галіне гаспадаркі, навукі і культуры, — падкрэсліў М. Гайдук. — Беларускае грамадска-культурнае таварыства, яго гарадскі аддзел у Беластоку, арганізуючы гэтае мерапрыемства, хоча таксама ўнесці свой уклад ва ўрачыстае святкаванне Дзён Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі на Беласточчыне“.

На працягу трох гадзін панавалі на сцэне самадзейныя беларускія калектывы з Гарадка — тэатр паэзіі ў суправаджэнні аркестра і народны хор.

У першай частцы гарадоцкі тэатр паэзіі паказаў удалую інсцэніроўку паэмы П. Глебкі „У тыя дні“. Другую частку склала выступленне харавога калектыву з Гарадка. Яго і так багаты рэпертуар расшырылі сола, дуэты, трыё і квартэт. Воплескі, ад якіх гудзеў Звяжынец, былі найлепшым выразам прызнання і для выканаўцаў, і для кіраўнікоў калектыву: мастацкага кіраўніка Н. Мушынскай і музычнага кіраўніка С. Копы. А калі дадаць, што ў рэпертуары выступлення знайшліся сатырычныя вершы Н. Мушынскай у яе выкананні і гумарыстычныя прыпеўкі на надзённыя, актуальныя тэмы ў інтэрпрэтацыі Н. Цыванюк і Н. Мушынскай, а ўвесь калектыў выступіў у красачных беларускіх народных касцюмах — усім стане зразумела, чаму гарадоцкія самадзейнікі запаланілі сэрцы беластачан.

У перапынку паміж выступленнямі мастацкіх калектываў быў праведзены сярод удзельнікаў фэстыну лятучы конкурс ведаў аб Беларускай ССР і БГКТ.



Да конкурсу прыступіла пяць асоб. Пытанні не належалі да лёгкіх. І ўсё ж беспамылковы і бездакорны адказ дала Ася Савіцкая, здабываючы першае месца, нядрэннымі былі адказы Марылі Савіцкай (другое месца) і Рыгора Астроўкі (трэцяе месца). Яны атрымалі ўзнагароды — камплекты выдавецтваў БГКТ. Пры гэтым з пустымі рукамі не адышлі і астатнія двое ўдзельнікаў конкурсу І. Гадлеўская і Р. Чарнецкі, яны атрымалі фальдэры-інфарматары аб БГКТ.

Удана аздобіў фэст беластоцкі гандаль, паказваючы на сцэне ў перапынках летнія дамскія і мужчынскія ўборы.

Зацікаўленнем карысталася таксама экспазіцыя з выдавецтвамі БГКТ і пласцінкай песень М. Забэйды-Суміцкага.

Фэст закончыўся, калі сонца ўжо хавалася за стромкія гмахі Беластока. Але яго ўдзельнікі не спяшаліся разыходзіцца, яны акружылі аўтобус з гарадоцкімі калектывамі, дзякавалі ім за прыемныя часіны, запрашалі яшчэ прыехаць у Беласток.

**Ігнат Снарскі**
Фота аўтара

## НЯДЗЕЛЯ Ў НАРАЎЦЫ

Нядзеля 24 чэрвеня ў 335-гадовай Нараўцы была асабліва святочнай. Ад самай раніцы на стадыён прыбывалі маладыя людзі з усяго павету. У Нараўцы адбывалася павятовае свята маладосці, арганізатарам якога быў Выканаўчы камітэт Павятовай рады Федэрацыі сацыялістычных саюзаў польскай моладзі ў Гайнаўцы. Тут адбываўся таксама злёт моладзі прыгранічнай зоны з нагоды 28 гадавіны ўтварэння ВОП.

Пасля выступленняў гаспадароў і гасцей старшыня Выканаўчага камітэта Павятовай рады ФСЗМП у Гайнаўцы Ян Сапяжынскі прадставіў прысутным перадавікоў працы і навукі. Уршуля Дымідоўская (ЗМС), Васіль Русак (ЗСМВ), Барыс Абрамовіч (ЗСМВ) і Аліцыя Марыняк (ЗГП), як дэлегаты ад гайнаўскіх перадавікоў прымуць удзел ў Цэнтральным злёце перадавікоў працы, які ў гэтым годзе адбудзецца ў Кракаве. Ян Чэрнякевіч (ЗСМВ) — з'яўляецца дэлегатам на X Фестываль моладзі і студэнтаў у Берліне.

У праграме свята моладзі было шмат культурных мерапрыемстваў. Аднак гваздзём праграмы быў турнір вёсак Скупава-Міклашэва.



Адна з жаночых футбольных каманд.

Калі абедзве дружыны з транспарантамі, лозунгамі і музыкай увайшлі на пляцоўку стадыёна, усе месцы запоўніліся да апошняга. Найбліжэй размясціліся балельшчыкі абедзвюх дружын. Бо і як жа тут не паглядзець, калі адбываюцца гонкі ў мяшках ці на бочках, калі прадстаўнікі абедзвюх дружын перацягваюць шнур і г.д. Дружыны спаборнічалі ў выконванні найпрыгажэйшых бутэрбродаў (канапак), у маляванні плакатаў на сельскагаспадарчую тэматыку, у выконванні песень. Аднак спаборніцтва датычыла і таго, што зрабіла ўся вёска. Камісія, ацэньваючая турнір, давала пункты таксама за грамадскія чыны паасобных вёсак, за працу гурткоў ЗСМВ, за грамадскую культурную дзейнасць. Спаборнічалі між сабой таксама пажарнікі. А футбола жаночых каманд пазайздросціў бы, бадай, сам Беласток.



Тут патрэбна не толькі сіла, але і спрыт.

Адна ўвага. Сярод прысутных і членаў каманд было шмат актывістаў БГКТ і, здаецца, што тут можна было б таксама папулярызаваць наша таварыства. А на нараўкаўскім святе не было нават ніводнага прадстаўніка гайнаўскага аддзела БГКТ. Чаму?

Тэкст і фота **А. Карпюка**



**Чый бутэрброд будзе прыгажэйшы? — гэтае пытанне павінны вырашыць маладыя гаспадыні.**

## ФЭСТЫН У ЛІТВІНАВІЧАХ

Члены гуртка БГКТ у Літвінавічах здорава напрацаваліся. Ужо ў суботу, 16 чэрвеня г.г. зрабілі прыгожую трыбуну, сходы на яе, прывезлі бярозкі і ўкапалі іх пры трыбуне, павесілі бела-чырвоныя і чырвоныя сцягі — адным словам, усё зрабілі, каб на вялікім пляцы пры сваёй святліцы (якую раней пабудавалі грамадскім чынам) было прыгожа і ўрачыста так, як прыстала на народны фэстын пад лозунгамі „Дні Савецкай Беларусі“ і „Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная“.

У нядзелю 17 чэрвеня з самай раніцы ліў дождж. Не прышлося скарыстацца з прыгожа падрыхтаванай трыбуны. Фэстын адбываўся ў святліцы.

Урачыстасць адкрыў і вёў сакратар сямяціцкага аддзела БГКТ Міхась Вішанка. Старшыня сямяціцкага аддзела Анатоль Мартыновіч выступіў з дакладам аб дасягненнях Савецкай Беларусі. Другім дакладчыкам быў начальнік гміны з Нурца Анатоль Данілюк, які паказаў удзел мясцовага насельніцтва ў конкурсе „Беластоцкая вёска — гаспадарная і культурная“. Прадстаўнік павятовага камітэта ПАРП Пётр Леанюк у сваім выступленні даў высокую ацэнку дзейнасці БГКТ у Сямяціцкім павеце і пажадаў яму яшчэ большых поспехаў у працы.

Пасля афіцыйнай часткі распачаліся мастацкія выступленні, якія працягваліся больш як 2 гадзіны. Эстрадны калектыў з Плёсак захапіў прысутных. Выступалі таксама ўдзельнікі павятовага агляду „Беларуская песня — 73“: Мікалай Парфенюк, Вера Баран, Валя Парфенюк (яны з Вулькі Нурэцкай), Тарэса Колч з Клюковіч і Іван Куптэль з Літвінавіч.

Быў таксама паказ моды, танцавальная вечарына, у часе якой адбылася „Згадуй-згадуля“ на супрацьалкагольныя тэмы.

Тэкст і фота **Міхася Хмялеўскага**



**Спяваюць дзяўчаты з Плёсак.**

Мікола Гарулёў

# Сапраўдны таварыш

Зміток першы ўскочыў у аўтобус і заняў месца для Петрыка. Таты і мамы стаялі на тратуары, нешта ўсе разам гаварылі на развітанне — нічога не разабраць. Аўтобус крануўся, усе пачалі глядзець у вокны.

— А мне нічога не відаць, — сказала Вера Малышава.

— Мальшка, садзіся на маё месца! — паклікаў Петрык.

Зміток непрыязна паглядзеў на сябра. Здурнеў ён, ці што?..

Ехалі доўга. Апошнія паўкіламетра да лагера трэба было прайсці пехатой. Зміток ішоў наперадзе і не азіраўся. А Петрык дагнаў Веру, узяў з яе рук цяжкі партфель і нёс да самага лагера.

У пакоі першы выбраў месца Петрык і паклікаў Змітрака.

— А можа, я не хачу з табой?

— Чаму гэта? — здзівіўся Петрык.

— А таму! — Зміток павярнуўся і выбег з пакоя...

Дні праз тры пачалася вялікая ваенная гульня.

Старшы важаты стаў начальнікам штаба і пасля пад'ёму паклікаў Змітрака і Петрыка. Калі яны прыбеглі, у пакоі ўжо сядзела Вера. Зміток зірнуў на яе, але нічога не сказаў.

— Вы трое пойдзеце ў разведку, — важаты разгарнуў карту. — Вось тут замаскіруецеся і будзеце сачыць. Як толькі заўважыце передавыя часці «сініх», зараз жа паведаміце ў штаб — ён будзе вось тут, у леснічоўцы. Зразумелі?

— Зразумелі, — адказаў Петрык.

— Камандзірам вашай групы будзе Вера.

— Мы б і з Петрыкам справіліся, — сказаў Зміток.

— Загад ёсць загад. Выконвайце.

— І важаты ўстаў.

Па лясной дарозе паперадзе ішла Вера. У яе на руцэ быў компас. Вера добра ведае маршрут, хутка арыентуецца на мясцовасці.

Неўзабаве разведчыкі павярнулі на лясную сцежку. Яна вяла паўз яміны і балотцы, мінала купіны і карчы. Разведчыкі выйшлі на паляну.

— Тут будзем чакаць «сініх», — сказала Вера.

— Як, чакаць? — злосна спытаў Зміток. — Мы ж не на трамвайным прыпынку.

Вера спакойна тлумачыла;

— Вы затаіцеся ў лесе і чакайце майго сігналу.

Зміток з Петрыкам сачылі за дарогай. А Вера насунула на вочы



хустку і пачала збіраць суніцы. Суніц было мала, ды Вера іх не вельмі шукала, а ўсё ўглядалася ў той бок, адкуль павінны былі паявіцца «сінія».

Хлапчукі доўга моўчкі ляжалі ў кустах.

— Хітрая, — нарэшце сказаў Петрык. — Малайчына.

— Падумаеш, ка-ман-дзір... І адкуль яна ўзялася?... — злосна прашаптаў Зміток.

— Як табе не сорамна?

— Гэта табе сорамна, усё каля яе круцішся: «Малышка, Малышка»...

У гэты момант Вера зняла хусцінку і, прыгінаючыся, кінулася да іх.

— А данясенне? Можа, ты пабяжыш, а я пабуду тут з ім? — спытаў Петрык.

— Нікуды я адна не пайду. Зробім насілкі і панясём яго.

— Пачакайце, не спяшайцеся, — сказаў Зміток, — можа, я і сам дайду. Мне ўжо лепш. Я паспрабую.

Вера і Петрык зноў паднялі Змітрака, падставілі яму свае плечы. Абапіраючыся на іх, ледзь-ледзь дакранаючыся хворую нагою да зямлі, Зміток памалу пайшоў. Відаць, балела яму моцна, але ён трываў, маўчаў і толькі час ад часу пытаўся:

— Вам цяжка? Цяжка?



— «Сінія»! — сказаў Петрык.

Яны паімчаліся па лясной сцяжынцы. Хацелася хутчэй прынесці навіну ў штаб. Зміток зачапіўся за корч і грымнуўся на ламачча.

Вера і Петрык вярнуліся.

— Што з табой?

— Нага-а... заенчыў Зміток.

Вера памагла Змітраку ўстаць.

Ён ступіў некалькі крокаў і зноў апусціўся на зямлю.

— Мабыць, вывіхнуў, — сказала Вера. — Прыйдзецца несці.

— Не задавай лішніх пытанняў, — сур'ёзна сказала Вера. — І наогул лепш нічога не кажы.

Каля поўдня, спацелыя і змучаныя, сябры нарэшце падышлі да леснічоўкі. Там іх даўно чакалі.

А назаўтра перад вячэрай, у вольную гадзіну, калі ўсе дзяўчаты займаюцца сваімі справамі — вышываюць, прасуюць, прычэсваюцца, — у Верыным пакоі расчыніліся дзверы і, накульгваючы, увайшоў Зміток. У яго руках быў букецік палявых кветак. Дзяўчаткі прыціхлі і чакалі, што будзе. А хлопчык падышоў да Веры і падаў ёй букецік.








Самыя актыўныя гарцэркі Чэхаўскай школы. Чытай аб іх на стар. 7.

Фота Я. Чэрнякевіч

№ 28 (807) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 15.VII.1973 г.

## У ЧЭХАХ

(Працяг са стар. 7)

моладзі, які будзе будавацца ў Гайнаўцы.

У дзень дзіцяці ў Чэхах адбыліся міжшкольныя спартыўныя спаборніцтвы. Прыйшлі ўсе вучні са школы ў Дубічах Царкоўных. У гульні ў два агні перамаглі дубічаўцы. У лёгкай атлетыцы сілы былі роўныя. Балельшчыкамі былі вучні трох школ: Чэхаў, Дубічаў і Вітава. Пасля гульняў бацькоўскі камітэт падрыхтаваў дзецям пачастунак.

Аб працы ў Лізе аховы прыроды расказаў вучань восьмага класа Ваня Вілюк. Дзеці апекаваліся зімою звярамі і птушкамі, насілі ім ежу, самі зрабілі ім кармушкі. Збіралі восенню насенне на корм для птушак. Хадзілі ў лес, вышукоўвалі застаўленыя на звяроў петлі-лавушкі. Гурток прымаў удзел у конкурсе акруговага праўлення Лігі аховы прыроды на найлепш працуючы гурток, і аказаўся сярод пераможцаў. Усе члены гуртка атрымалі кніжныя ўзнагароды.

Зухі таксама выконвалі карысную працу: здабывалі спраўнасць касманаўта, збіралі шышкі, грыбы, злом і макулатуру. Заробленыя такім чынам грошы таксама перадалі на будову Дома моладзі. Зухі ўвесь час апекаваліся (думаю, што і далей гэта робяць) трыма старымі жанчынамі ў вёсцы, ананімна выконвалі ім розныя працы, пакідаючы толькі на месцы сваёй працы білецік з тэлевізійнай гры «Нябачная рука».

«Зорка» спадзяецца, што дзеці напішуць ёй аб тым, як праводзяць канікулы, чым займаюцца, як дапамагаюць дарослым.

Вера Леўчук

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



Зафарбуй кружочкі з кропкамі і тады ўбачыш, што намаляваў мастак.

Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1. „Zorka" BZGraf. K-1

Артур Вольскі

## ЛІСКА

Я, ліса, лісіца, ліска,
Вельмі зайчыкаў люблю.
Падбяруся блізка-блізка
І за хвосцік ухаплю.

Ты чаго пабег, куртаты?
Я ж нядатна на разбой.
Будуць рады лісяняты
Пазнаёміцца з табой.

Чула я, што рыжы колер
Вельмі модны стаў цяпер.
Але трапіць я ніколі
Не хацела б на каўнер.



## ЗАЙЧЫК

Абыходжу проста
ўсіх звяроў,
бо не маю вострых
кіпцюроў.

Бо не маю дзюбы,
як пугач.
Скрозь пільнуе згуба,
хоць ты плач.

Бо не меў ніколі
іклаў я.
Ах, якая доля
прыкрая!

Пільнавацца мушу
я і ў сне.
Ёсць на тое вушы
у мяне.

Ёсць на тое ногі
хоць куды!
Вынесуць з аблогі
ды з бяды.



## МЯДЗВЕДЗЬ

Нават сцежка задрыжала
ад маіх магутных лап.
Зваўся бацька мой Міхалам,
а мяне завуць Патап.

Ёсць і львы, і тыгры недзе...
Хочаш — вер або не вер:
не адужае мядзведзя
ні адзін у лесе звер.

У маліну ўскочу з ходу,
толькі трэск ідзе вакол.
Мне б дастаць паболей мёду,
ды баюся злосных пчол.

Нагуляць за лета тлушчу
шмат мне трэба.
А чаму?
Каб глыбей схавацца
ў пушчу
і заснуць на ўсю зіму.



Ева Чакалідзі

## НЕРАЗЛУЧНЫЯ СЯБРЫ

Пакінуты на кухонным стале відэлец сказаў нажу:

— Да чаго няўважлівая гаспадыня: зноў не паклала нас на месца. Падсунься бліжэй, пагаворым трошкі.

— Я старэйшы за цябе. Ты павінен да мяне падсунуцца. Мы, нажы, даўно вядомыя на свеце. Гэта ад нас пайшлі сярпы. А вы, відэльцы, паявіліся гадоў трыста назад толькі. Ды, шчыра кажучы, карысць ад вас невялікая. Думаеш, калі кладуць цябе побач са мною на стале, дык ты ўжо і роўня мне?

— Навошта крыўдзіцца? Праўда, я маладзейшы, але хіба я не памагаю табе?

Таўкачыку не спадабалася ганарлівасць нажа. Ён высунуўся са ступкі і сказаў:

— Колькі часу мы працуем разам і ніколі не было спрэчкі, каму з нас цяжэй.

— Знайшоўся мне працавік! Што ў вас за работа? — ускіпеў пакрыўджаны нож. — Два-тры разы на тыдзень патаўчэш трошкі — і ўсё. Хіба ж можна таўкач і відэлец параўноўваць са мною?

— Добра! Пойдзем спытаем яшчэ ў каго-небудзь, — сказаў відэлец нажу і павёў яго з кухні у пакой.

Яны падышлі да шафы, і відэлец папрасіў:

— Іголачка калючая, нітачка цягучая, выгляньце, калі ласка. Хачу ў вас нешта спытаць.

Іголка вылезла з прыскрынка і пацягнула за сабою нітку.

— Вось ён, — паказаў відэлец на нож, — дакорвае мяне, што я менш за яго працую. Ці ж гэта праўда?

— Знайшлі за што спрачацца, сябры! Мы з ніткай заўсёды разам і ніколі нават не думаем, хто важней. Чаго мы будзем варты адна без другой!

Нож хацеў запярэчыць, але ў гэты час з пісьмовага стала падала голас аўтаручка:

— Усім вядома, якія мы неразлучныя сябры: я і чарніла. Я заўсёды нашу яго ў сваім сэрцы. І наша дружба дае людзям вялікую карысць. А чаго варты кожны пасобку?! Разумеецца, нічога.

Нож многа ад каго чуў пра аўтаручку, што яна вельмі разумная асоба і ёй трэба верыць. І не стаў пярэчыць.

Відэлец і нож вярнуліся зноў на кухонны стол.

Раніцай гаспадыня здзівілася, як гэта яна не заўважыла іх учора вечарам, і паклала на месца.





## пагляблай свае веды

### ДЗЕСЯТЫ СУСВЕТНЫ ФЕСТЫВАЛЬ МОЛАДЗІ

Сталіца Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі Берлін ужо гатова прымаць гасцей з усяго свету. За некалькі дзён пачынаецца тут X сусветны фестываль моладзі і студэнтаў. Некалькі дзесяткаў тысяч маладых людзей — прадстаўнікоў маладога пакалення працоўных усіх краін свету — маладыя рабочыя, сяляне, студэнты, вучоныя, героі вызваленчай барацьбы, спартсмены і артысты, мастакі і літаратары — прыедуць сюды, каб выразіць сваю галоўную волю і думку: моладзь хоча, павінна і будзе жыць у міры. Дэвіз сёлеташняга фестывалю — салідарнасць у барацьбе з імперыялізмам за мір і дружбу.

Weltfestspiele der Jugend und Studenten
Berlin 1973
Hauptstadt der DDR

Берлінскі фестываль ужо дзесяты. Першы адбыўся больш чвэрці стагоддзя назад, у летнія дні 1947 года ў чэшскай Празе. Потым наступныя: 1949 год — Будапешт, 1951 — Берлін, 1953 — Бухарэст, 1955 — Варшава, 1957 — Масква, 1959 — Вена, 1962 — Хельсінкі, 1968 — Софія. І вось лета 1973 года — зноў Берлін.

Права быць на Берлінскім фестывалі моладзь здабывала добрай працай, вучобай, удзелам у мастацкіх і спартыўных калектывах. Паедзе на фестываль той, хто мае аб чым расказаць, штосьці цікавае паказаць, праявіць свае незвычайныя здольнасці. У нашай краіне ўдзельнікі выбіраліся ў розных маладзёжных арганізацыях. Вось, напрыклад, з Беласточчыны паедзе на фестываль 21 асоба. Усе кандыдатуры зацверджаны Ваяводскай Радай Федэрацыі сацыялістычных саюзаў моладзі — восем чалавек ад Саюза сацыялістычнай вясковай моладзі, пяць — ад Саюза сацыялістычнай моладзі, чатыры — ад Саюза гарцэрства, тры — ад Саюза студэнтаў, адзін прадстаўнік вайсковай моладзі.

У палове ліпеня дэлегацыя польскай моладзі будзе прабываць у спецыяльным для іх лагеры, дзе будзе рыхтаваць праграму сваіх выступленняў. Потым — усе члены польскай дэлегацыі будуць удзельнікамі Злёту перадавікоў працы і навукі ў Кракаве.

Аб сваіх сустрэчах з прадстаўнікамі розных краін, аб пабыўцы ў Берліне нашыя прадстаўнікі, напэўна, вярнуўшыся дадому, усім нам дакладна раскажуць. З імі будуць наладжаны сустрэчы ў школах і на прадпрыемствах, у святліцах і ва ўстановах.

Такім чынам, ідэя фестывалю моладзі пойдзе глыбей у масы, будзе блізкай і зразумелай кожнаму грамадзяніну нашай краіны.

(яч)



## ЧЭХАХ

Пачатковая васьмікласная школа ў Чэхах Арлянскіх у Гайнаўскім павеце закончыла сваю працу. Ад верасня ў Дубічах Царкоўных будзе працаваць гмінная школа.

На працягу ўсяго года ў Чэхах вельмі добра былі арганізаваны дадатковыя заняткі з дзецьмі. Працавалі тут вельмі актыўна гарцэры пад кіраўніцтвам Ольгі Міранчук, зухі — пад кіраўніцтвам Аліцыі Гавіны. Лігай аховы прыроды кіравала дырэктар школы Лідзія Кананюк. Яна ж апекавалася гуртком ТППР. ПЦК працаваў пад кіраўніцтвам настаўніцы беларускай мовы Надзеі Сулімы. Кожны вучань працаваў хоць у адной арганізацыі.

Ніна Несцярук расказвала мне аб гарцэрах: рэгулярна праходзяць зборы, вывучаюць гарцэрскія песні, арганізуюць вечары, збіраюць макулатуру і злом. Са збору макулатуры і злому зарабілі 500 злотых. Перадалі іх на будову Дому

(Працяг на стар. 8)



Дзеці з Чэхаў выйшлі на спатканне з «Зоркай».
Фота Я. Чэрнякевіч



**Дырэктар пачатковай школы ў Махнатым Гайнаўскага павету сярод сваіх вучняў.**

# І ПРЫ ТАКІХ УМОВАХ...

Ніхто не скажа, што пачатковая школа ў Махнатым Гайнаўскага павету мае добрыя ўмовы для працы. Ва ўласна школьным будынку месціцца ўсяго тры класы, а рэшта вучыцца ў трох нанятых памяшканнях, якія раскінуты па ўсёй вёсцы.

Павятовы план рэарганізацыі ў канцэпцыі новай школьнай сеткі прадбачвае стварэнне гміннай школы ў Гайнаўцы. Гэта будзе сучасная, на высокім узроўні школа. У яе і будуць даязджаць вучні V-VIII класаў з Махнатага. Чыгуначная станцыя знаходзіцца якраз каля вёскі. Пасля 1978 года ў школе ў Махнатым будуць вучыцца толькі дзеці I-IV класаў. Для такіх патрэб цяперашняга будынка хопіць. Але пакуль што тутэйшаму сяміасабоваму калектыву на чале з дырэктарам школы Янкам Міранюком працаваць нялёгка.

І ўсё ж педагагічны калектыў у Махнатым мае дасягненні ў сваёй дыдактычна-выхаваўчай дзейнасці. Вось хоць бы возьмем выпускнікоў восьмага класа з 1971/72 навучальнага года. Было іх 20. Трое з іх цяпер вучыцца ў Сельскагаспадарчым тэхнікуме рахункаводства ў Бельску, двое — у Медыцынскім ліцэі ў Бельску, адна асоба — у Агульнаадукацыйным ліцэі з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы, многія пайшлі ў розныя прафесіянальныя вучылішчы. Дома засталося трое, а і то адзін з іх закончыў курс трактарыстаў, другі стаў бляхаром-рамеснікам, трэці — паўсірата — разам з маці заняўся гаспадаркай.

У дырэктара Я. Міранюка вялікі настаўніцкі вопыт — 17 год працы ў розных школах. Закончыў ён Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай навучання ў Бельску, потым аддзяленне беларускай філалогіі ў ЗНС у Беластоку, а цяпер з'яўляецца студэнтам завочнага аддзялення беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта.

У салідна апрацаванай „Праграме ўдасканальвання працы школы ў гадах 1972-1975“ знаходзіцца шэраг каштоўных прапаноў педагогаў з Махнатага. Чытаем там наступны кароценькі сказ: „Весці сучаснымі метадамі адкрытыя ўрокі і камплектаваць канспекты“. Толькі ў 1973 годзе адбыліся ўжо 3 адкрытыя ўрокі. Вялі іх: па матэматыцы ў IV класе — Анна Міранюк, па біялогіі ў VI класе — Галена Сяльвесюк і па рускай мове ў V класе — Зінаіда Паўлючук. Розныя прадметы і розны настаўніцкі стаж, бо Г. Сяльвесюк працуе ў школьніцтве 18 год, А. Міранюк — 10 год, а З. Паўлючук — толькі першы год.

— І гэта вельмі добра, — заўважае дырэктар Я. Міранюк. — Маладыя настаўнікі паказваюць навінкі, вынесеныя з вышэйшых навучальных установ, а старэйшыя — свой набыты гадамі вопыт.

На адкрытых уроках прысутнічаюць усе настаўнікі школы. Пасля іх правядзення пачынаецца дыскусія, калегі-настаўнікі выказваюць свае заўвагі пра ўрок, дзеляцца вопытам. Дырэктар сістэматычна камплектуе канспекты праведзеных адкрытых урокаў. З часам такі збор стане вельмі каштоўным матэрыялам асабліва для маладых настаўнікаў, якія змогуць выкарыстаць вопыт сваіх старэйшых калегаў.

Значыць, і ў цяжкіх памяшкальных умовах дружны і працавіты настаўніцкі калектыў можа дабіцца добрых вынікаў у навучанні і выхаванні.

**Мікалай Гайдук**

**фота аўтара.**



# Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

74

СЯМЕЙНАЯ




*Ой, пропала ж моя доля, пропала —*
*Мэнэ маті за п'яныцю оддала!*
*Мэнэ маті за п'яныцю оддала!*
*А п'яныця-нэдбайныця ў корчме п'е —*
*А як прыдэ додомоньку, жонку б'е,*
*А як прыдэ додомоньку, жонку б'е,*
*— Ой, прывыкай, мое дітя, прывыкай —*
*До суседа проз оконце ўтікай!*
*До суседа проз оконце ўтікай!*
*Ой хотела, мой батэньку, утэчы —*
*Трымаецся п'яныцэнько за плечы,*
*Трымаецся п'яныцэнько за плечы!*

Ад Сакоўскай Веры, 1925 года нараджэння, і Гацуты Веры, 1926 года нараджэння, — абедзве з вёскі Новакорніна Гайнаўскага павету — запісаў 9 мая 1973 года Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Эдуард Гойлік.

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### ГОРАД, У ЯКІМ СОНЦА ЗАХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў ДЗЕНЬ

У англійскім горадзе Ліке сонца ў адзін і той жа самы дзень заходзіць два разы.

Горад Ліке ляжыць у катліне, якая ад захаду акружана гарамі. Вада парыла горы і прамыла вялікі тунель.

Бывае так, што сонца заходзіць якраз насупраць гэтага тунеля і тады ў горадзе праходзіць падвойны захад сонца. Першы раз сонца заходзіць за вяршыні гары — у горадзе наступае змрок. Цераз некалькі мінут ноч уступае і праз тунель паказваецца зноў сонца, становіцца ясней. Праменні сонца зноў асвятляюць горад, аднак хутка хаваюцца за гарызонт.

### КАРАЛІ Ў ЕЎРОПЕ — ПАТОМКІ К. ЯГЕЛОНЧЫКА

Як паказваюць даследаванні, усе каралі, якія ў сучасны момант трымаюць уладу ў Еўропе, а сярод іх Эльжбета II, з'яўляюцца патомкамі Казімежа Ягелончыка. (аті)

## ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

# ВАСІЛЬ АХРЫЦЮК



Селянін Васіль Ахрыцюк з вёскі Скупава, Гайнаўскага павету вядомы ў Нараўкаўскай гміне як добры гаспадар. Вядзе ён 10-гектаравую гаспадарку. Атрымлівае высокія плёны пшаніцы і проса. На не надта добрай зямлі гэтыя культуры патрабуюць большай падкормкі мінеральнымі ўгнаеннямі, таму гаспадар купляе іх даволі многа. У мінулым годзе прадаў ён дзяржаве 1 200 кілаграмаў жыта і пшаніцы. З хатняй жывёлы гадуе найбольш свіней. Па 12 і 15 штук. Трымае па дзве свінаматкі дзеля добрых пародзістых парасят. У галіне гадоўлі свіней у Васіля Ахрыцюка вялікі вопыт. Апрача таго, ён намераны павялічыць колькасць кароў. Будзе гэта залежаць ад таго, ці будзе замена сенажацяў, якія знаходзяцца аж пад Белавежай. Патрэбных парад з галіны сельскай гаспадаркі Васіль Ахрыцюк шукае ў часопісах „Тшода хлеўна“, „Хлопска Дрога“, „Плён“ і іншых, у сельскагаспадарчай літаратуры, а таксама ў агранома.

Перадавы скупаўскі селянін атрымаў кваліфікацыю столяра. Таму разам з сынам яны пабудавалі ў 1959 годзе прыгожы мураваны дом і зрабілі сталярку. Цяпер дома ёсць тэлевізар, пралька і іншае абсталяванне хатняга ўжытку.

Васіль Ахрыцюк з'яўляецца шматгадовым грамадскім дзеячом. Ён, між іншым, арганізаваў у Скупаве сельскагаспадарчы гурток. На працягу чатырох гадоў быў яго старшынёю і пасля столькі ж гадоў намеснікам старшыні. Яшчэ і цяпер не абыходзіцца без яго „кулка“.

За шматгадовую грамадскую працу і за вялікія дасягненні ў жывёлагадоўлі Рада Дзяржавы ПНР у 1971 годзе ўзнагародзіла Васіля Ахрыцюка Сярэбраным крыжам заслугі.

**Тэкст і фота Я. Цялушэцкага**

# ДЗІВЫ ДЫСТРЫБУЦЫІ

Самі, сябры, ведаеце, як гэта добра зайсці, скажам, у мясную краму, разгледзецца навокал, выбраць каўбаскі той ці іншай, шыначкі крышку, ну, і мяса на абед. Хочаш, напрыклад, рабрынку, дык рабрынка. Любіш адбіўную, бяры, калі ласка.

А вось паспрабуйце ў Гарадку! Крамаў, не скажаш, шмат. Па блузачкі, бялізну, ці іншыя шматкі з Беластока нават прыязджаюць. Хваляць, што выбар вялікі. А вось з мясам ці ветчыною бяда. Справа ў тым, што ўлады лічаць Гарадок звычайнай вёскаю. І надзяляюць яго рознай снеддзю так, як вёску.

Паводле „вышэйшага“ разліку, значыцца, кожная сям'я ў Гарадку, безумоўна, трымае паршука, карову, а то і дзве, не гаворачы пра такую дробязь, як куры, качкі ці гусі. Безумоўна, што дзе хто і займаецца гадоўляй. Што аднак маюць рабіць жыхары трох гарадоцкіх блокаў, з якіх большасць нават гародчыка не мае? Бяда, казалі калісь, усяму навучыць. Не тыя аднак часы. Пад даўнішні шырокі ложак смела з дзюжыну курыц упіхнуў бы. Паспрабуй аднак пад тапчан, ці пад версальку. А паршукі? Калі галава сям'і ў ванне купаецца, дык жонка дзверы насцеж адчыняе, каб было дзе ногі выставіць. У такой пасудзіне лядва парася памесціцца, ды і то без карыта. А інакш, гадавалі б. Чаму не? Не глядзелі б на ніякія засцярогі санэпід-станцыі. Есці ж трэба. А ў грамадскіх установах? А на іншых прадпрыемствах?

Добра, як хто мае цешчу. Бабулькам, ведама, не спіцца. Сапрэш такую з ложка а чацвертай гадзіне раніцы, пастаіць яна ў чарзе да дзесятай і можа якраз з кілаграмчык з косткаю ці без косткі дастане. У найгоршым выпадку націранне старэнькай у аптэцы купіцца. Гэта каб бакі, якія ў чарзе намялі, разагрэць. Дык і гэта, калі яшчэ пашанцуе. Бо калі, скажам, з'явяцца прадстаўнікі дзіцячага сада і школы, сяброўкі Тыхава і Дылко, тады зусім бяда. Іх падапечныя, дзеці дашкольнага і школьнага ўзросту, на недахоп апетыту не наракаюць. Ім толькі падавай. Ведаюць адно, што барабаніць ложкамі ў талеркі. Інтандэнты і стараюцца, са шкуры вылазяць, што ж, калі пасля іх „закупаў“ адзіным куском мяса, які застаецца ў краме, з'яўляецца сам прадавец. Яго і ядуць! А што ён бедны зробіць? Прадасць тое, што дадуць і — замок на дзверы!

Ходзяць чуткі, што мясцовыя ўлады думаюць прызнаць дзе якім прадстаўнікам гандлю, адказным за такую сітуацыю, права ганаровага жыхарства ў Гарадку. З тым, каб абавязкова пажылі хоць з месяц. Няхай выядаюць кашу, якую самі наварылі.

Адны лекары ў цэнтры здароўя заціраюць рукі. Кажуць, што калі пашанцуе, дык Міністэрства можа прызнаць Гарадок курортнай мясцовасцю. З тым, што маглі б тут лячыць толькі хваравбліваю сытасць. Нават і лозунгі ўжо прыдумалі: „Хочаш стройную кабету — дай ёй гарадоцкую дыету“, альбо „На мужыку сала многа — толькі ў Гарадок дарога“.

**Ларс**

**КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З МІНСКА**

# БЕЛАРУСКІ ЛЁН

Мала знойдзецца культурных раслін, якія маглі б раўняцца сваім паходжаннем з ільном. Лён здаўна служыць чалавеку, і нягледзячы на нязвыклыя поспехі хіміі, якая прапануе ўсё новыя і новыя замены льнянога валакна, старажытная культура не здае сваіх пазіцый. Лён называюць „паўночным шоўкам“. Ён як бы спецыяльна створаны прыродай для патрэб чалавека. Тканіны з яго прыгожыя, трывалыя, гігіенічныя і па гэтых якасцях пакуль што не можа з ім зраўняцца ніводзін з заменнікаў. Апрача тканін, лён мае і іншае прызначэнне. Гэта і абутак, і парусы, і брызент, і ўпаковачны матэрыял, і мяхі, і вяроўкі, і харчовае масла, і лякарствы, і корм для жывёлы, і цырата, і лінолеум і многае іншае.

## „ІЛЬНЯНАЯ РЭСПУБЛІКА“

На долю Савецкага Саюза прыпадае прыкладна тры чвэрці пасеваў ільну ў свеце. Беларусь, нягледзячы на тое, што яна займае каля І працэнта агульнасаюзнай тэрыторыі, належыць да ліку важнейшых ільнасеючых раёнаў краіны. У рэспубліцы сканцэнтравана прыкладна 20 працэнтаў пасеваў гэтай культуры. На долю Беларусі прыходзіцца чвэрць агульнасаюзнага ільновалакна.

Лён для Беларусі — традыцыйная культура. Гэта нацыянальнае багацце і, можна сказаць, яе экзотыка. Лён шырока ўвайшоў у беларускі фальклор, яму прысвечаны многія нацыянальныя песні і танцы.

У дарэвалюцыйнай Беларусі ільнаводства абапіралася выключна на цяжкую ручную працу. Агратэхніка яго вырошчвання была крайне прымітыўнай. Значная частка ільну заставалася ў гаспадарцы і выкарыстоўвалася для асабістых патрэб сялян. Мялі, пралі і ткалі лён на прымітыўных ручных станках. Сваёй ільноапрацоўчай прамысловасці ў Беларусі не было, таварнае валакно вывозілася за межы краіны і там апрацоўвалася.

Цяпер ільнаводства ў рэспубліцы — адна з высокамеханізаваных галін сельскай гаспадаркі. Ільнаводы працуюць у цесным саюзе з навукай. На дапамогу ім прыйшлі хімія і авіяцыя. Пасевы і праполка ільну ўжо даўно праводзяцца толькі машынамі. Расце механізацыя самай працаёмкай працы — церабленне, і толькі на асабліва нязручных участках, дзе камбайны прымяняць немагчыма, прыходзіцца карыстацца яшчэ ручной працай.

Няспынна павышаецца ўраджайнасць гэтай культуры. У мінулым годзе, напрыклад, у калгасе імя Дзімітрава Талочынскага раёна Віцебскай вобласці з кожнага гектара атрымана па 9 цэнтнераў ільновалакна на плошчы 200 гектараў.

Беларускія вучоныя лічаць, што цяперашнія рэкорды — не канец, што ў перспектыве сярэдняя ўраджайнасць ільновалакна ў рэспубліцы можа дасягнуць дзесяці і нават пятнаццаці цэнтнераў з гектара.

## ТЭКСТЫЛЬНАЯ СТАЛІЦА

Так называюць старажытны беларускі горад Оршу, які раскінуўся на беразе ракі Днепр. Тут яшчэ ў трыццатыя гады быў пабудаваны адзін з буйнейшых па таму часу ільняных камбінатаў. У часе другой сусветнай вайны нямецка-фашысцкія акупанты, адступаючы пад ударамі Савецкай Арміі і партызанаў, не пакінулі ад камбіната каменя на камені. Усё прышлося пачынаць спачатку. Але ўжо ў 1949 годзе Аршанскі ільнокамбінат па вытворчасці тканін пераўзыйшоў даваенны ўзровень. А ў лютым 1970 года аршанскія тэкстыльшчыкі выпусцілі свой мільярдны метр, саткаўшы, такім чынам, „пакрывала“ размерам у 100 тысяч гектараў.

Цяпер камбінат — адно з буйнейшых прадпрыемстваў тэкстыльнай прамысловасці Савецкага Саюза: больш 35 тысяч прадзільных верацён, каля 1.400 ткацкіх станкоў. У 1972 годзе выпуск тканін ішоў на ўзроўні 75 мільёнаў квадратных метраў. Гэта прыкладна 10 працэнтаў агульнасаюзнай вытворчасці ільняных тканін.

Цяпер у Оршы будуецца трэцяя чарга камбіната. Усе шэсць цахоў трэцяй чаргі камбіната размесцяцца пад адным дахам. У іх мантуецца навейшае тэхналагічнае абсталяванне. Вядома, што ткацкая вытворчасць належыць да аднаго з найбольш шумных працэсаў. Бесчаўночныя аўтаматы, якія будуць мантавацца тут, працуюць амаль бясшумна. У праекце прадугледжана поўная механізацыя транспарціроўкі сыравіны і гатовай прадукцыі. Гэта будзе адзіная транспартная сістэма, якая ахопіць усе цахі. Будзе таксама механізавана ўборка памяшкання і ачыстка абсталявання ад пылу. Спецыяльныя ўстаноўкі ствараць у вытворчым корпусе штучны клімат, забяспечаць пастаянную тэмпературу і вільготнасць паветра.

У беларускага „паўночнага шоўку“ яшчэ больш шырокія перспектывы. Ідзе будаўніцтва шматлікіх заводаў па комплекснай перапрацоўцы ільну, якія вызваляць калгасы і саўгасы ад неўласцівых ім аперацый па падрыхтоўцы трасты і валакна, пачнецца будаўніцтва другога па велічыні ў рэспубліцы Асіповіцкага ільнокамбіната.

Старажытная тэхнічная культура і сёння верна служыць чалавеку.

**Барыс Усцінаў**
фота **В. Казлова**



**Ткацкі цэх Аршанскага ільнокамбіната.**

## Куток практычных ведаў




### ЯК ПАДРЫХТОЎВАЦЬ ПОСУД ДЛЯ ЗІМОВЫХ ЗАПАСАЎ

Аб тым, ці запасы з гародніны і фруктаў, якія мы падрыхтуем на зіму, будуць трывалыя, у вялікай меры вырашае падрыхтаваны посуд. Посуд трэба збіраць паводле прадугледжанага плана запасаў.

Найбольш зручнымі і гарантуючымі трываласць кампотаў, марынадаў і г.д., з'яўляюцца слоікі-вэкі. Такім чынам, трэба раней (бо калі ўжо трэба будзе рабіць запасы, то позна будзе хадзіць і шукаць усяго гэтага) забяспечыцца патрэбнымі для герметычнага закрыцця вэкаў гумкамі і пружынкамі. Ёсць таксама слоікі тыпу „фенікс“ альбо „твістоф“, якія таксама падыходзяць для падрыхтоўвання хатніх запасаў. Да слоікаў „фенікс“ трэба дарабіць са сталёвай бляхі пружынкі-націскі, такія, як да вэкаў.

Перахоўваць джэмы і розныя салаты можна таксама ў звычайных слоіках з закручваемай крышкай, а нават і ў шклянках ад муштарды. Абавязкова аднак патрэбна іх ушчыльніць тады цэлафанам альбо пэхам.

Пэх можна падрыхтаваць самому — з калафоніі і алею. 100 грамаў калафоніі неабходна разагрэць у каструльцы над агнём, пасля гэтага дадаць 15 грамаў льнянога альбо парафінавага алею і дакладна вымяшаць. Пэх стварае моцную паверхню, якая не прапускае паветра. 1 кг пэху хапае для ўшчыльнення 30—40 слоікаў. Можа быць ён таксама выкарыстаны для лакавання бутэлек, у якіх мы захоўваем сокі і перацёры. Найлепшыя для гэтай мэты бутэлькі, якія закрываюцца герметычна. Для звычайных бутэлек неабходна падрыхтаваць коркі адпаведнай велічыні.

Неабходна памятаць, што ўвесь посуд для зімовых запасаў павінен быць раней памыты ў гарачай вадзе з бялілам, вельмі дакладна выпаласканы і абсушаны. Слоікаў не выціраць!

Варта таксама памятаць, што раней неабходна закупіць невялікую колькасць спірту, якім вы будзеце выціраць берагі слоіка і ў якім будзеце мачыць кружкі цэлафану, прызначаныя ў якасці ізаляцыі пад пэх. Пачка ваты, марля, гумкі, цэлафан, ачышчаная сода для дэзінфекцыі коркаў і гумак — вось неабходныя рэчы, якія павінны быць сабраны і падрыхтаваны перад пачаткам падрыхтоўкі марынадаў, салатаў і варэння на зіму.

Увесь посуд, які застаўся з мінулага года, неабходна дакладна перагледзець. Пааббіваныя слоікі не могуць быць выкарыстаны ў гэтым годзе. Для падрыхтоўкі джэмаў і варэння найлепш мець шырокую плоскую эмаліраваную каструлю. Варта таксама праверыць, ці ёсць адпаведнае перлонавае сіта, драўляная палка для пераціранія, лейка для налівання сокаў у бутэлькі.

**Гаспадыня**

**Д. МАРОЗАЎ**

# КРАХ АПЕРАЦЫІ „ЦЫКЛОН“

Лібель, засунуўшы газеты ў кішэню, амаль бягом вярнуўся да свайго фургона. Ён павольна паехаў па цёмнай вуліцы. Толькі праз паўгадзіны яму ўдалося выбрацца з лабірынта цэнтра горада. Обер-лейтэнант спыніў сваю машыну каля невялікага доміка на ўскраіне. На вуліцы не было ні душы. Загнаўшы машыну ў гараж пад домам, Лібель узышоў на ганак. Дзверы адчыніліся з сярэдзіны без стуку.

— Ты штосьці ўжо вельмі доўга, Карл, куды ты прапаў? — спытаў малады мужчынскі голас.

— Шукаю Шварцбрука, — адказаў Лібель, — разумееш. гэты капітан знік зусім бясследна!

Яны ступілі з цемры ў светлы, добра абсталяваны пакой, вокны якога былі завешаны шчыльнымі светамаскіровачнымі шторамі. Лібель добра ведаў гэту кватэру. Яе гаспадар Міхель Лемке, або „Мішэль“, як яго называлі сябры, быў адным з нешматлікіх памочнікаў палкоўніка ў яго цяжкай і небяспечнай барацьбе. Біяграфія гэтага дваццацівасьмігадовага немца была простая. Дваццацігадовым, пасля таго як фашысты пакаралі смерцю яго бацьку-камуніста, ён уцёк у Іспанію. Змагаючыся ў радах Інтэрнацыянальнай брыгады, ён ведаў, што вядзе барацьбу не толькі за свабоду гэтай сонечнай краіны, але і супраць фашызму, які стаў яго ворагам на ўсё жыццё.

Потым быў пераход цераз Пірэнеі, лагер у Францыі, уцёкі, яшчэ адзін нелегальны пераход граніцы. Пад чужым імем у чэрвені 1941 года ён трапіў у армію на Усходні фронт і ўжо ў верасні пад Ленінградам здаўся ў палон савецкім салдатам. У Савецкім Саюзе яму ўдалося сустрэцца з сябрамі з Інтэрнацыянальнай брыгады. З вялікай ахвотай ён узяўся за работу ў савецкай разведцы. Некалькі заданняў у прыфрантавой паласе, а затым яго перакінулі ў Берлін для сувязі з групай Карла Лібеля.

Мішэль быў узрушан, калі ўпершыню даведаўся, хто хаваецца пад маскай крыху бесцырымоннага і пранырлівага обер-лейтэнанта з абвера. Ён убачыў, якую неацэненую ролю ў барацьбе супраць фашызму адыгрывае тайная работа гэтага чалавека. І пры ўсім гэтым Лібель валодаў уменнем быць заўсёды ў ценю, заставацца непрыкметным. Неўзабаве пасля прыезду ў Берлін Мішэль павінен быў вярнуцца назад у Маскву. Але потым планы змяніліся. Лібель здолеў уладкаваць яго ў Берліне ў друкарню, здабыўшы Мішэлю ўсе дакументы інваліда вайны. Часам обер-лейтэнант выкарыстоўваў яго кватэру, каб на дзень-два пасяліць у ёй чарговага абвераўскага агента. Дзякуючы частым наведванням обер-лейтэнанта суседзі Мішэля лічылі, што ён чалавек, звязаны не то з гестапа, не то з нейкай яшчэ сакрэтнай фашысцкай установай.

Разам з газетчыкам Фрэдам і яшчэ іншымі ўдзельнікамі групы Мішэль выконваў даручэнні Лібеля, забяспечваючы яму пастаянную сувязь з Масквой. Так працягвалася ўжо амаль паўгода.

Калі сёння раніцай Лібель прывёз да яго дамоў у знаёмым фургоне труп капітана, Мішэль зразумеў, што адбываюцца надзвычайныя падзеі. Ён ведаў, што яго сябар належыць да таго высокага класа разведчыкаў, якія ўмеюць працаваць без страляніны і тайнага ўскрыцця сейфаў. Лібель не пазбягаў рызыкі, але лічыў патрэбным ісці на рызыку з упэўненасцю ў паспяховым заканчэнні справы.

Застаўшыся раніцай адзін і прагледзеўшы дакументы ў партфелі Шварцбрука, Мішэль зразумеў, што „аўчынка“ і на гэты раз вартая вырабу.

Падышоўшы да акна, Лібель паправіў светамаскіроўку.

— Дзе гэты капітан?

— Усё там жа, — Мішэль кіўком галавы паказаў на дзверы суседняга пакоя. — На жаль, не ажыў.

— Цяпер гэта было б ужо залішне, Мішэль. Фігуры расстаўлены і яго пазіцыя на дошцы павінна быць іменна такой. Мы з табой абавязаны паставіць мат у адзін ход абверу, СД і штабу сухапутных сіл.

— Дык у чым жа справа? — усміхнуўся Мішэль.

— У цябе знойдзецца стары касцюм? — спытаў раптам Лібель.

— Так. — Навошта табе? Хочаш прагуляцца ў цывільным?

— Гэта не мне, а пану капітану. Прынясі, калі ласка!

Лібель увайшоў у суседні пакой. У кутку, прыкрыты дыванам, ляжаў труп капітана Шварцбрука, якога ён так старанна шукаў сёння па ўсім горадзе. Разведчык адкінуў дыван. З мінуту ён пазіраў на капітана. Колькі злачынстваў было на сумленні гэтага чалавека? Карныя экспедыцыі па беларускіх і ўкраінскіх вёсках. Расстрэлы, шыбеніцы, катаванні. Шкада, безумоўна, што не ўдалося перадаць яго прама ў рукі савецкай контрразведкі. „А там вас чака-

# ТРЫБУНА чытачоў

## Каму сельскагаспадарчыя машыны?

У Целушках ёсць сельскагаспадарчы гурток. Налічвае ён 28 членаў і мае свой фонд развіцця сельскай гаспадаркі. Але што з таго? Далучылі нас да МБМ-у ў Паўлах. Яны ад нас каля 5 км дарогі. Калі нашым гаспадарам трэба машыну, бяжы, брат, да Паўлаў. А там зноў мала калі застанеш свабодную машыну, бо яны заняты пераважна ў сваёй вёсцы. Так і выходзіць, што і дзень страціш, і без машыны прыдзеш. Калі ж прыедзе ў вёску нейкая машына, кожны рве яе як можа, бо гаспадароў жа многа. Людзі нашы ходзяць і да другіх МБМ-аў па машыны — у Сакі, у Трасцянку, але яны таксама больш як 5 кіламетраў ад нас.

Мы дамагаемся і просім, каб нам, Целушкам, значыцца, улады прызналі трохі машын, такіх, як трактар з саставам, каб і мы маглі трохі больш машынамі рабіць.

Праўду кажучы, у нас людзі і самі купілі драбнейшыя машыны, як сеялкі, касілкі. Але з машын кулковых ёсць толькі агрэгат для малацьбы.

Ад солтыса Паўла Марчука запісаў
**М. Матвеюк.**

## Фалькларны калектыў

Пры бібліятэцы ў Грэдалях працуе фальклорны калектыў. Мае багатую праграму. Нядаўна гэты калектыў выступіў на фэстыне ў Орлі. Ён складаецца з дзвюх груп — група з Тапчыкал і Грэдалёў.

На сваім першым выступленні на ўспомненым арлянскім фэстыне жанчыны з калектыву былі апрануты ў арыгінальныя беларускія ўборы. Цудоўныя былі іх ваўняныя спаднiцы, званыя саянамі. Калектыў праспяваў дзесяць песень. Дзве маладыя салісткі выканалі таксама сучасныя польскія песні. Вельмі добра і спраўна вяла канцэрт Людміла Грайко.

**Наглядальнік**

## ПАРНАСік

НЫТАЛЬНІЦКАЯ ЛІТСУПОЛКА НА НЕГАРАНТАВАНЫХ ПАЯХ

### КОСМАС

Сталі людзі марыць
Паляцець у космас.
Дасягнуў таго Гагарын,
Яму гэта ўдалося.

Гагарын ў космас паляцеў
Дванаццаць год таму назад.
Зямны шар ўвесь ён абляцеў
І на зямлю вярнуўся рад.

Аб космасе пісаць сталі
Усюды ў газетах
Нат Марсам зацікавіліся
І рознымі іншымі светамі.

**Васіль Асеннік,**
Бельскі беларускі ліцэй

---

лі нават больш, чым цяпер чакаюць у абверы, капітан Шварцбрук!" — падумаў Лібель.

— Ты так і не чапаў яго з таго часу, як прывёз? — спытаў ён увайшоўшага Мішэля.

— Зразумела, не, я займаўся яго партфелем. Там многа цікавага. — Мішэль ужо стаяў побач са старым касцюмам у руках.

— Ды вы амаль аднаго росту. Ну, давай пераапранём яго.

Стары касцюм Мішэля быў Шварцбруку ў самы раз. Цяпер капітан нікольні не быў падобны на таго зухаватага афіцэра, якім ён яшчэ нядаўна сышоў з поезда.

— У нашай справе трэба быць запаслівым. Даўно ўжо ў мяне ёсць добрыя дакументы. Вось. — Ён дастаў стары пашпарт і яшчэ нейкую кніжачку і паклаў іх у бакавую кішэню пінжака Шварцбрука. — Калі верыць дакументам, — сказаў ён, — перад намі цела мірнага берлінскага жыхара Ганса Шумахера, які загінуў пры бамбёжцы. Падобны?

— Падобны, — пацвердзіў Мішэль.

— Цяпер трэба даставіць яго на месца здарэння.

— А ты не думаеш, што Шварцбрука, калі яго знойдуць, могуць апазнаць?

**(Працяг будзе)**

НАШЫ ПАМОЧНІКІ

## СЯРГЕЙ ПТАШЫНСКІ



Сяргей Пташынскі кіруе працай пошты ў Кляшчэлях Гайнаўскага павету. Належыць да групы перадавых начальнікаў у акрузе. Пры яго кіраўніцтве кляшчэлеўская пошта займае адно з першых месц у спаборніцтве працы. Сяргей Пташынскі дасканала ведае сваю працу, дае з сябе як найбольш, стараецца ўтрымаць прыемны выгляд пошты. Дбае, каб адносіны паміж людзьмі былі добрыя, дбае пра культуру працы. Яго цэняць у Акруговым паштовым упраўленні ў Гайнаўцы.

Вельмі добра на тэрыторыі тутэйшай пошты развіваецца падпіска на „Ніву". Цяпер тут атрымліваюць больш 130 экземпляраў гэтага часопіса, а можа быць яшчэ лепш.

Аб добрай працы начальніка сведчаць узнагароды і дыпломы, атрыманыя ад дырэкцыі ў Гайнаўцы. Жадаем далейшых поспехаў у працы Сяргею Пташынскаму.

**М. Гогель**

## Сардэчныя ТАЙНЫ

### ДАРАГОЕ „СЭРЦАЙКА"!

Мне 17 год. Вучуся ў горадзе ў эканамічным тэхнікуме. Цяжкасцей у навуцы не маю і ацэнкі добрыя. Вось насталі ўжо канікулы і я вярнуўся на вёску да бацькоў. Наша вёска вялікая, шмат моладзі, часта арганізуем забавы. Да нас прыязджае моладзь з суседніх вёсак і мы таксама ездзім да іх. У першую нядзелю канікул была забава ў суседняй вёсцы. Я і мае сябры паехалі на гэтую забаву. Тут я пазнаёміўся з дзяўчынай з гэтай жа вёскі. Завецца яна Ніна. Ёй 16 год. Гэта вельмі прыгожая дзяўчына, я адразу ў яе закахаўся. Мы разам танцавалі ўвесь вечар. Потым я правёў яе дамоў. Дахаты не заходзіў. Пасядзелі мы на лавачцы. Ніна гаварыла мне, што ў гэтым годзе закончыла пачатковую школу. Далей вучыцца не пойдзе. Яна адна ў бацькоў, будзе працаваць на гаспадарцы. Я яшчэ ў наступную нядзелю з сябрамі туды паехаў. У гэтай вёсцы ёсць клуб, і там я спаткаў Ніну. Ізноў мы разам правялі дзень. Калі я дома, мне вельмі сумна без Ніны. Не магу дачакацца нядзелі, каб ізноў паехаць да яе. Я ўжо не ўяўляю, што будзе, калі скончацца канікулы і трэба будзе ехаць у школу ў горад. Часамі ўжо задумоўваюся, ці не кінуць школу і не застацца на вёсцы, бо Ніна ж далей вучыцца не будзе. Мо ты, „Сэрцайка", мне падскажаш, як паступіць.

**Міша з Гайнаўшчыны**

**Міша!** Ты яшчэ малады і, думаю, толькі таму так лёгкадумна адносішся да вельмі важнай жыццёвай справы, якой з'яўляецца навука. Навука — гэта будучыня моладзі. Яна неабходна і кожнаму маладому гаспадару, калі б ты захацеў у будучыні працаваць на гаспадарцы. Ужо ёсць гаспадары не толькі пасля сярэдніх, а нават і вышэйшых школ. Адукацыя ім дапамагае па-сучаснаму весці гаспадарку. Ды і каханне ў такіх маладых гадах рэдка бывае трывалым. Цяпер табе здаецца, што Ніна найпрыгажэйшая і толькі яе ты можаш кахаць. Праз нейкі час ты, можа, спаткаеш іншую дзяўчыну і яна табе будзе здавацца найлепшай. На жаль, зменным бывае дзіцячае каханне. І раю табе, на першым месцы стаў навуку, а ў вольных ад яе хвілінах, можна і аб дзяўчыне памарыць. **„Сэрцайка"**

## НЕВЯСЁЛАЯ радасць

Справа датычыць вёсак Паўднёвы Востраў, Паўночны Востраў і Новы Востраў. Калі каму з гэтых вёсак трэба ехаць у Саколку — на працу, у школу, ці з іншай мэтай, то кожны вымушаны ісці да ПКС-у ў Шудзялаве 5-7 км. Многія з тых трох вёсак выступалі на сесіях рад нарадовых, на партыйных сходах, каб экспазітура ПКС-у ў Саколцы хоць адзін аўтобус пусціла трасай Саколка—Шудзялава—Паўночны Востраў—Крынкі. І назад той жа дарогай.

Урэшце пайшла вестка, што ў новым распісанні ад чэрвеня гэтага года пойдзе ПКС з Саколкі ў Крынкі праз Паўночны Востраў. Людзьмі завалодала радасць. Праўда, пайшоў аўтобус з Саколкі ў Крынкі праз Паўночны Востраў, але перад 9-ай гадзінай раніцы, а вяртаецца з Крынак ў $9^{15}$, а другі ў $14^{00}$. І ўсё роўна, як даўней, калі трэба каму на працу ці ў школу ў Саколку з трох Астравоў, то раненька бяжыць у Шудзялава. А вярнуўшыся з працы ці са школы пасля 15-ай, трэба пехатою трапаць дамоў.

Ці ж не можна зрабіць інакш? З Саколкі ў гадзінах ад 5 да 7 ідуць аж тры аўтобусы, туды і назад. Можна адзін з іх пусціць з Саколкі ў Крынкі праз Паўночны Востраў і назад, але ў зручных для людзей гадзінах. Калі пачынаецца рабіць людзям дабро, няхай жа яно будзе сапраўды дабром. **У. Х.**

## ДОБРА ПРАЦУЕ



Актывістка БГКТ Галена Бельская ад снежня мінулага года з'яўляецца кіраўнічкай клуба селяніна ў Тарнопалі Гайнаўскага павету. У яе клубе ўзорны парадак, свежыя сценгазеты, кветкі. Вядуцца тут розныя формы працы: сустрэчы, даклады і кінасеансы. Матэрыял для сценгазет і фотагазет дастаўляе праўленне аддзела БГКТ у Гайнаўцы. Застрэльшчыкамі культурных пачынанняў у клубе з'яўляюцца таксама такія мясцовыя актывісты, як Галена Янель, Зіна Лаўрэшук, Ян Стоцкі, Ян Новік, Міхал Бельскі і Мікалай Васько.

Нядаўна аддзел культуры ПРН купіў для клуба тэлевізар. Іншыя неабходныя ў клубе прылады купіць ГС у Нараўцы.

Нягледзячы на тое, што Тарнопаль раскінуты па калоніях, у клубе заўсёды людна. Прыходзяць сюды людзі нават з далёкіх месц.

— Раней у Тарнопалі дзейнічаў добры мастацкі калектыў. Цяпер, калі значна папраўіліся ў нас умовы працы, будзем старацца ажывіць і мастацкі рух, — кажа Галена Бельская. — У бліжэйшы час вылучым адзін дзень у тыдзень на рэпетыцыі. Плануем таксама правесці ў клубе сустрэчу з Уладзімірам Гайдуком. Ён жа піша прыгожыя вершы, якія выдаў у зборніку „Ракіта". Апрача нашага таленавітага аднавяскоўца, плануем сустрэцца з Алесем Барскім, Янам Анацікам, журналістамі „Нівы" і „Нашай весі". **Віктар Бура**

## НЯСЛАЎНАЯ ХРОНІКА

У вёсцы Валілы Беластоцкага павету згарэў драўляны дом Мікалая Дзернякоўскага, вартасці 30.000 злотых.

Таксама згарэў дом і хлеў гаспадара з вёскі Сукавічы Сакольскага павету — Мікалая Лапаты. Страты — 80.000 злотых.

На дарозе Беласток — Гайнаўка, недалёка Заблудава, шафёр З. Куцняроўскі, едучы „Нысай", на павароце ўдарыў у прыдарожнае дрэва. У самаходзе ехалі выпадковых пасажыры. Двое з іх былі забіты на месцы, а пяцёра і сам шафёр, цяжка параненыя, апынуліся ў шпіталі.

## НАША ПОШТА

**Анна Дзенісюк**, Плёскі. Папярэдні верш „Сірата" надрукуем у „Парнасіку". Надрукуем і верш „Лісто" на бельскай гаворцы.

**К. Т.** Твае апавяданні-казкі будуць надрукаваны ў „Зорцы", зразумела, у перакладзе на беларускую мову. А магло б усё хутчэй і лепш ісці, каб ты не ўпіралася і пісала нам па-беларуску. Нам добра вядома, што беларускую мову ты ведаеш і пішаш на ёй так добра, як і на польскай.

**Міхась Антанюк**, Чэхі Арлянскія. Мілы сябра, на жаль, з прысланых вершаў не надрукуем нічога, бо ані па-польску ані па-руску вершаў не друкуем. Талент да вершаў аднак у вас ёсць, дык паспрабуйце напісаць па-беларуску. А для заахвочання раім прачытаць верш з папярэдняга нумару „Нівы" ў „Парнасіку" аднаго здольнага „паэта ад прыроды" з Клейнік.

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Każdemu swoje" (włoski), 17—18. „Śmierć na zakręcie" (NRD), 19—20. „Posag księżniczki Ralu" (rumuński), 22—23.

**Нараўка**

„Sokoły" (węgierski), „Kozacy" (radz.), 17—22.

**Нарва**

„Dziewczyna inna niż wszystkie" (angl.), „Hełm Aleksandra Macedońskiego" (radz.), 17—22.

**Чыжы**

„Pilot helikoptera" (radz.), „150 na godzinę" (polski), 17—22.

**Дубічы Царкоўныя**

„Kopernik" (polski), „Zwiadowca" (radz.), 17—22.

**Арэшкава**

„Kajtek i nowy braciszek" (węgierski), „Poszukiwanie" (hiszpański), 17—22.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„24 godziny z życia kobiety" (franc.), „Małżonkowie roku II" (radz.), 17—22.

**Орля**

„Okruchy życia" (franc.), „Wydra pana Grahama" (angl.), 17—22.

**Райск**

„Czym mogę służyć" (czeski), „Gniewna podróż" (bułg.), 17—22.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**

„Dziewczyna inna niż wszystkie" (angl.), „Hasło Korn" (polski), 17—22.

**Янаў**

„Posag księżniczki Ralu" (rumuński), 17—22.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Zjazd rodzinny" (węgierski), 17—18. „Tylko wtedy, gdy się śmieję" (angl.), 19—20. „Anatomia miłości" (polski), 21—22.

**Мельнік**

„Zdarzenie" (jugosł.), 17—18. „Tajemnica Aleksandra Dumasa" (czeski), 19—20. „Rewizja osobista" (polski), 21—22.

**Мілейчыцы**

„Pomyłka szpiega" (radz.), 17—18. „Tylko wtedy, gdy się śmieję" (angl.), 19—20. „Morderca samotnych kobiet" (NRD), 21—22.


Ніва

Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego. Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe RSW „Prasa-Książka-Ruch". Redaguje Kolegium. Adres Redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Numer przy przesyłkach pocztowych: Redakcja tygodnika „Niwa", Skr. poczt. 281, 15-950 Białystok. Telefony: Redaktor Naczelny i Sekretarz Redakcji 2-10-33, publicyści 2-32-41 do 45 (centrala). Cena prenumeraty krajowej: rocznie: 28,80 zł, półrocznie: 14,40 zł, kwartalnie: 7,20 zł. Prenumeraty przyjmowane są do dnia 10 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty. Prenumeraty na kraj dla czytelników indywidualnych przyjmują Urzędy Pocztowe oraz listonosze. Można również wpłaty na prenumeratę indywidualną dokonywać na konto I Oddziału Rejonowego „Ruch" w Białymstoku 150-6-161 NBP I OM Białystok. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Wszystkie instytucje państwowe i społeczne w miastach, zamawiają prenumeratę wyłącznie za pośrednictwem Oddziałów i Delegatur RSW „Prasa-Książka-Ruch". Pozostałe — mające siedzibę na wsi lub w innych miejscowościach, w których nie ma Oddziałów i Delegatur zamawiają prenumeratę za pośrednictwem Urzędów Pocztowych. Prenumeratę na zagranicę przyjmuje: RSW „Prasa-Książka-Ruch", Biuro Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych, Wronia 23, 00-840 Warszawa. Konto PKO Nr 1-6-100024. Cena prenumeraty dla zagranicy jest wyższa od prenumeraty krajowej o 40 proc.

BZGraf. Nakład 8069 K-1

# А ДАЛЕЙ ШТО?

— Люсік, ну?!
— Што?
— Ну што было?
— Ды нічога.
— Ну як нічога? Што было?
— Ну, сустрэліся.
— Так. А далей што?
— Ну, ён мне гаворыць: „Кахання няма, ёсць толькі цяга“. Уяўляеш?
— А ты яму?
— А я яму: „Калі так, дык і добра“.
— Проста адразу?.. А ён?
— А ён паглядзеў і гаворыць: „Добра? Ну і добра“.
— А што ты? А ты?
— А я яму гавару тады: „Ну і добра“.
— Правільна. А ён?
— А ён нічога.
— Ага... Так... А потым?
— А потым гаворыць: „У кіно пойдзем?“
— Ого! А ты?
— А я: „Каму трэба, той і пойдзе“.
— І правільна! А ён?
— А ён: „А табе што, не трэба?“
— Вось гад!.. А ты?
— А я: „Гэта трэба яшчэ паглядзець, калі! Можа, мне яшчэ і не падыдзе! Зразумеў?“
— Малайчына! А ён што?
— А ён гаворыць: „Калі-калі, у сямнаццаць дваццаць пяць, іншага няма. Ля ўваходу буду“.
— Дурань які, не зразумеў нічога. А ты што? Няўжо...
— Што няўжо? Я яму сказала: „Доўга чакаць давядзецца“.
— Ой, Люська... А ён што?
— А ён грабянец дастаў і гаворыць: „Доўга, ды не вельмі. Не даўжэй, чым ты думаеш“.
— А ты што?
— А я нічога.
— Як нічога?! Ды ты што! То ўсё, а то нічога! А ён?
— І ён нічога.
— А чаго ж тады?..
— Пад акном стаіць. А я да цябе забегла спытаць, — толькі хутчэй: ён ужо другую папяроску канчае, а ў яго пачцы было тры — слухай, Нінк, ты Віцьку што далей гаварыла?

**Мікалай Булгакаў**



*— Днямі ядро ўпала яму на палец, і ён устанавіў рэкорд па скачках у вышыню!*

# НІЎКА



## АНГЛІЧАНІН

Аднаго вельмі беднага англічаніна наведаў адвакат. Выняўшы з партфеля нейкую афіцыйную паперу, ён аб'явіў:

— Мне даручана паведаміць вам, што нядаўна памершы далёкі сваяк усю сваю маёмасць завяшчаў вам. Вы атрымліваеце ў спадчыне яго маёнтак з вялікімі лясамі, 100 тысяч фунтаў стэрлінгаў і сабаку.

Наследнік зацягнуўся люлькай, выпусціў воблака дыму і спытаў:

— Якой пароды сабака?

## ПАКРЫЎДЖАНЫ П'ЯНІЦА

П'юць жа людзі, п'юць умеру,
П'юць усюды, ды не ўсе,
Я таксама з дружбакамі
Выпіваю пакрысе.

На траіх бяру адразу,
А як двое не прыйшлі,
Наглытаюся ўжо гэтак, —
Ледзь паўзу я па зямлі.

Не магу знайсці дарогі,
Каб міліцыю мінуць,
А назаўтра зноў шукаю,
Каб яшчэ дзе хлебануць.

А учора сон прысніўся,
Што з гарэлкі я сканаў,
І ніхто па мне не плакаў,
І ніхто не шкадаваў...

**Адам Русак**

## МІНІБАЙКІ

### НЕ ЎПЭЎНЕНЫ — НЕ АБГАНЯЙ!

Заяц выклікаў Ваўка на спаборніцтва: хто каго абгоніць. І абагнаў.

Воўк у сваю чаргу выклікаў Зайца на... гутарку.

— Ты ўпэўнены, што я цябе не з'ем?
— Н-не, н-не уп-эўнены...
— Правільна.

І з'еў.

Мараль: не ўпэўнены — не абганяй.

### СВЕТЛЯЧОК

Нейк спыталі ў Светлячка:
— Чаму ты ўсіх ярчэй, усіх прыкметней свеціш?
— Таму, што ў мяне няма іншай спецыяльнасці.

**М. Азаў, У. Ціхвінскі**



*— Вы што, альпініста ніколі не бачылі?*



**...Ён траціў годнасць з годнасцю.**

**...Над ім збіраліся грозныя хмары фіміяму.**

## ПРА ВАС

Славутая кінаактрыса:
— А цяпер хопіць гаварыць пра мяне. Пагаворым пра вас. Раскажыце мне, калі ласка, як я вам спадабалася ў апошнім фільме.

## ПРЫБАЎЛЕННЕ

Настаўнік пытаецца ў вучня:
— Пятрук, чаму ты не быў учора ў школе?
— У нас было прыбаўленне ў сям'і...
— Брацік ці сястрычка?
— Што вы! Мама нарэшце выйшла замуж!

## ШКАДА

Вяртаючыся з кірмашу, маці і бацька супакойваюць сына:
— Шкада кароўкі? Не плач, сынку. Ты ж сам ведаеш, як яна даілася, есці не хацела. Да гэтага, яшчэ і рагам волю дае...
— Мне не шкада кароўкі, — усхліпнуў Янка. — Шкада таго, хто яе пасці ды даіць будзе.

## НА ЭКЗАМЕНЕ

Выкладчык: — Назавіце найбольшыя дасягненні хіміі.
Студэнтка: — Рыжыя валасы.



*Першы купальны касцюм.*

## ВОСЬ МОЛАДЗЬ!

Сядзяць сабе два дзядулі на лаўцы і размаўляюць:
— Ну і моладзь пайшла, не разбярэш, дзе хлопец, а дзе дзеўка!..
— А я іх па абутку пазнаю.
— Якім чынам?
— Калі размер абутку сёмы ці восьмы, дык дзеўка, а калі большы, дык, значыць, хлопец.

## ЯШЧЭ НЕ ВЕДАЮ

На світанні міліцыянер злавіў падазронага тыпа з выпханым партфелем у руках.
— Што ў вашым партфелі? — спытаў міліцыянер.
— А я яшчэ і сам не ведаю! — адказаў той.

## ГУМАР З

### ЧАМУ

— Што гэта ў цябе, Яська, на носе сядзіць?
— Бародаўка.
— Чаму ж ты яе не звядзеш?
— Нельга, яна ў пашпарт упісана. За гэта, братка, пападзе.

### ЯК З САБАКАМ

— Цікавы гэты тэлеграф: на адным канцы націсні, а на другім загаворыць.
— Гэта, братка, як з сабакам: націсні яго ззаду за хвост, а ён табе спераду забрэша.



*І найменшая дробязь можа парушыць дарожныя планы.*

## ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе Данкі Лабадзінскай, Яні Зіневіч, Олі Раманюк, Іры Кудзім, Лены Попік, Лёні і Юры Юхімовічаў з Сабятына, а таксама Тамары Клін з Бельскага павету змяшчаем песню з рэпертуару Стэні Казлоўскай

## DO SZCZĘŚCIA BLISKO

W przydrożnych głogach zapadł senny dzień
W mech się otulił cień.
Rozkwitłą nieostrożnie różę we śnie
Księżyca skrwawił cierń.
W koronie drzewa przywarł cicho wiatr,
Drży niecierpliwie liść,
Noc czeka, los czeka, bo właśnie dziś —

Do szczęścia blisko, do nieba blisko,
Do ciebie blisko przez nocy mrok.
Bezpieczna ciemność okryła wszystko —
W nieznaną przyszłość już tylko krok.

Już cztery kąty się schowały w cień,
Skrył w ciemność piąty piec.
Jeszcze się plącze jak niechciany sen
Dym ze spalonych świec.
Jak powódź cisza się wylewa w noc
Zagląda w okno liść —
Ja czekam, ty czekasz, bo właśnie dziś —

Do szczęścia blisko, itd.

## БАЛЕЛЬШЧЫКІ

На лонданскім стадыёне „Уэмблі“ праходзіць футбольны матч веку „Зборная Англіі“ — „Зборная свету“. Цэны на білеты — фантастычныя, і тым не менш стадыён забіты. У самай дарагой ложы сядзіць дама, побач з ёй свабоднае месца, аднак на ўсе просьбы балельшчыкаў, якія жадаюць заняць яго, яна адказвае:
— Ніколі! Гэта месца майго памёршага мужа...
— Але ж мужа ўжо няма, запрасілі б хоць каго-небудзь са сваякоў...
— На жаль, усе сваякі зараз на яго пахаванні.

## КЛАПАТЛІВЫ МУЖ

Жонка корпаецца каля печы. Муж ляжыць на ложку, газеты чытае.
— Кастусь, ты б дроў прынёс... — кажа жонка.
— А колькі табе тых дроў трэба?
— Ды адно бярэменца...
— Я думаў, кубаметраў два-тры, а бярэменца і сама прынясеш...

## ВАЖНАЯ ПРЫЧЫНА

— Чаго ты плачаш, унучак?
— Бо Аня муху забіла!
— Забіла муху — не бяда. Што, табе яе шкада?
Унук бабулю не слухае, хліпае на парозе.
— Дык яна забіла муху на ма-і-м носе!..

# КУРЁЗЫ

## ПАПУГАЙ АСІСЦІРУЕ ЎРАЧАМ

Папугай Пітэр, які жыве пры бальніцы англійскага горада Ньюарк, у меру сваіх сіл дапамагае ўрачам аднаўляць здольнасць пацыента размаўляць. Гэта „работа“ даручана яму пасля аднаго эпізоду, які крута павярнуў усё жыццё Пітэра і зрабіў яго славутым. А справа была так. У час чарговага лячэбнага сеанса, на якім выпадкова апынуўся папугай, ён следам за медыцынскай сястрой пачаў гучна паўтараць назвы прадметаў, што знаходзіліся ў пакоі. Гледзячы на яго, адзін з хворых, нечакана сказаў некалькі пачутых слоў. Пасля гэтага здарэння папугай пачаў выступаць у якасці „законнага асістэнта“ на медыцынскіх сеансах. Новы метад лячэння шырока рэкламуецца ў англійскім друку.

## ДАКЛАДНЫ АНАЛІЗ

Лабараторыя ў амерыканскім горадзе Бінгем накіравала кліенту, які даслаў узор невядомага рэчыва крэмовага колеру і незвычайна цвёрдай кансістэнцыі, заключэнне: „Дасланы нам для аналіза невядомы матэрыял у стане зацвярджэння мае выключныя вяжучыя якасці. Ён паспяхова можа прымяняцца ў якасці заменніка цэмента“. Кліент хутка дзякаваў: „З вашым аналізам я пазнаёміў сваю жонку: дасланы ўзор, на жаль, не з'яўляецца матэрыялам, які прымяняецца ў будаўніцтве. Гэта толькі кавалак святочнага пудзінга, у выпечку якога мая жонка ўкладае так многа душы, што патрабуе ад мяне захаплення яе кулінарным талентам“.

## СТАТЫСТЫКА ВЕДАЕ ЎСЁ

Ведае яна таксама, колькі яек ідзе ў страву на зямной кулі ў дзень. Па дадзеных Камісіі па праблемах харчавання пры ААН, гэты лік складае 2,1 мільярда. Як ні дзіўна, курыныя яйкі пры гэтым стаяць на апошнім месцы. Першае месца займаюць чарапашыя яйкі, затым яйкі розных паўзуноў.

## МІНЕ З НАМІ

*Зрабі — калі не можаш паабяцаць.*